БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 1 (13533)

30 снежня 1991 года — 5 студзеня 1992 года

Цана 1 рубель (па падпісцы — 35 кап.)



## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

З палітычным прагнозам на наступны год вас пазнаёміць Алена Агібалава на старонцы

3

"Філасофія святла". Адзін са шляхоў пазбаўлення ад цяжкасцей жыцця — духоўнае самаўдасканаленне...

4

Што нас чакае ў 1992 годзе ў галіне эканомікі?

5

Калядны фотарэпартаж Сяргея Брушко глядзіце на старонцы

6

Навагодні выпуск "Сумежжа" на старонцы

7

Гаспадынь і гаспадароў парадуе выпуск майстэрні "ЧЗ"

8-9

Нотны аркуш пазнаёміць вас з чарговым гіт-парадам на старонцы

10

Вытокі

11

Спадчына

12

Крымбюро

13

І як заўсёды, моцна прапячэ неўтаймаваны "Гарчычнік"

16

# ФАКТ

# 1991: СКАЧОК У ВІР ці ШЛЯХ ДА ВЫРАТАВАННЯ?

## Шаноўны чытач!

Ты трымаеш у руках першы, святочны нумар "Чырвонкі". Мы зрабілі ўсё, каб ён атрымаўся цікавым, і прыкладзем усе сілы, каб ты не пашкадаваў, што падпісаўся на наш штотыднёвік.

Цяжка ўсім, цяжка і журналістам. Наш калектыў – гэта толькі маленькі адбітак нашага грамадства, люстэрка, у якое яно можа паглядзецца і ўбачыць свае праблемы, свае пошукі, сваю галечу і сваю радасць. Мы заўсёды імкнёмся да таго, каб нас не лічылі крывым люстэркам, дзе адбіваюцца толькі чорныя ці ружовыя колеры рэчаіснасці. "Чырвазменаўцы" не прэтэндуюць на тое, каб кагосьці весці за сабой, падымаць кагосьці да свайго ўзроўню. Мы не збіраемся глядзець паверху, і па меры нашых сціплых магчымасцей будзем знаёміць вас з працэсамі, якія адбываюцца не на паверхні, а ў глыбіні.

"Чырвонка" мэтай сваёй паставіла прапаганду беларускасці. Прабачце нас за слова "прапаганда"! Мы можам і павінны распавядаць вам аб тым, што бачым, і як усе веруючыя людзі, мы будзем спрабаваць пераканаць вас, нашы чытачы, у тым, у ва што самі верым свята – у неабходнасці беларускага адраджэння.

Мы не кінем нашых здабыткаў. Застанецца ў "Чырвонай змене" і "Спадчына", і "Вытокі", і "Нотны аркуш", будзе падсмажваць на сваіх патэльнях пякучы "Гарчычнік", аматараў крымінальных гісторый, як і ў мінулым годзе, зацікавіць "Крымбюро". І разам з тым мы працягваем пошук. Надта многае ў нашым жыцці не ўлазіць у старыя схемы, надта многае змянілася ў светапоглядзе чалавека, які ўжо перастаў быць савецкім. Краіна ідзе да рынку, з'яўляцца новыя каштоўнасці, новыя перакананні. Гэта аб'ектыўны працэс, і мы не губляем аптымізму. Наогул, асноўная задача прэсы, на наш погляд, гэта не толькі адлюстроўваць рэчаіснасць, як яна ёсць, але і дапамагаць чытачу, асабліва маладому чалавеку (а мы спадзяёмся, што пераважную большасць нашых чытачоў складае моладзь) не губляць гэты самы аптымізм. Не аддаваць сябе на волю хваляў, а шукаць свой шлях, змагацца за свае перакананні, умацоўваць мір і згоду паміж людзьмі.

Мы віншуем цябе з Новым годам, люд беларускі, і спадзяемся, што наступны, 1992 год, стане для цябе не годам новых выпрабаванняў, а часам пошуку, часам будаўніцтва, часам развіцця і адраджэння!

Рэдкалегія "Чырвонай змены".

*На лёс кожнага пакалення абавязкова прыходзіцца год, які становіцца пераломным. Паўстанне дзекабрыстаў; вызваленне сялян ад прыгоннага права; першая сусветная вайна; рэвалюцыя і грамадзянская вайна; Вялікая Айчынная... А цяпер — перабудова. З поўным правам можна сказаць, што кожная з азначаных падзей — эпоха.*

*1991 год стаў апошнім годам сусветнага эксперыменту, роўнага якому прыгадаць немагчыма. Была створана спроба дасягнуць роўнасці, роўнасці паміж людзьмі. Вынік — яшчэ большае сацыяльнае расслаенне, жудасная якога — у яго знешняй прыхаванасці... Унутраны непрыхаваны цынізм тых, каго гісторыя ўзнесла, а потым моцным пінком кінула ў багну, з'яўляецца папярэджаннем: "Людзі, будзьце пільнымі!"*

*Мы хочам прыгадаць падзеі, якія з'явіліся ўрокамі не толькі для нас, але і для наступных пакаленняў. Урокі апошняга года існавання самай буйной, самай моцнай, самай нелагічнай дзяржавы з тых, якія існавалі калі-небудзь на нашай планеце...*

**• Студзень**

Прыбалтыка ў крыві. Апошняя спроба прыхільнікаў старога захаваць свае пазіцыі ў Літве, Латвіі, Эстоніі. Першы з пробных камянёў дэмакраты.

Пачатак аперацыі "Штурм у пустыні", першай вайсковай кампаніі, што была распачата Злучанымі Штатамі і падтрымана Савецкім Саюзам.

Кіраўніцтвам Цэнтральнага тэлебачання закрываецца праграма "Взгляд".

Прэм'ер-міністрам СССР становіцца Валянцін Паўлаў.

**• Люты.**

Пастановай Вярхоўнага Савета БССР прымаецца пражытачны мінімум для жыхароў Беларусі ў памеры 125 рублёў.

Парламент БССР ратыфікуе пагадненне Беларусі з Украінай, Казахстанам і Расіяй.

**• Сакавік.**

Прэм'ер Паўлаў просіць у Вярхоўнага Савета СССР практычна неабмежаваныя паўнамоцтвы.

Іван Палазкоў заяўляе, што "адзінай сілай, здольнай выратаваць наш Саюз, з'яўляецца КП РСФСР".

Рэферэндум, прысвечаны пытанням захавання Саюза, дазваляе Гарбачову лічыць, што большая частка яго насельніцтва за Саюз.

Прэзідэнт СССР Гарбачоў наведвае сталіцу Беларусі.

У Мінску адбываецца II з'езд БНФ.

**• Красавік.**

Павышэнне цэн. Шматтысячныя мітынгі ў Мінску і іншых гарадах краіны. Бастуе практычна ўся Беларусь.

5-я гадавіна з дня чарнобыльскай катастрофы.



**• Май.**

Разгараецца канфлікт паміж Азербайджанам і Арменіяй.

Рыжскі АМАП ажыццявіў узброены напад на мытныя пункты Латвійскай рэспублікі.

**• Чэрвень.**

Працягваецца Нова-Агароўскі працэс. Удзельнічае 9 рэспублік.

Перадвыбарная барацьба ў Расіі: Ельцын, Макашоў, Жырыноўскі...

Барыс Ельцын едзе з візітам у Злучаныя Штаты.

Гаўрыіл Папоў становіцца мэрам Масквы.

У Мінску адбываецца сусветны кангрэс беларусістаў.

Беларускім парламентам прымаецца закон аб культуры.

**• Ліпень.**

Беларускі парламент зрабіў заяву аб неабходнасці прыватызацыі жылля.

Эдуард Шэварднадзе дэманстратыўна выходзіць з КПСС.

Барыс Ельцын прымае прысягу як Прэзідэнт РСФСР.

Зацішша перад навальніцай.



**• Жнівень.**

Антыканстытуцыйны путч. Перамога дэмакратыі, забарона дзейнасці Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

**• Верасень.**

БССР перайменоўваецца ў Рэспубліку Беларусь, яе парламент зацвярджае новыя герб і сцяг рэспублікі.

**• Кастрычнік.**

Забіты Ігар Талькоў.

Часопіс "Шпігель" друкуе матэрыялы, якія выкрываюць тайну следства па справе ГКЧП.

Новая катастрофа на Чарнобыльскай АЭС.

Беларускі парламент прымае закон аб грамадзянстве.



**• Лістапад.**

Аддзяленне Украіны ад Саюза.

Правал Нова-Агароўскага працэсу.

У Беларускім парламенце пачалося абмеркаванне новай канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

7 лістапада першы раз за многія дзесяцігоддзі не адбылася святочная дэманстрацыя.

**• Снежань.**

XXX з'езд Беларускага камсамола мяняе назву арганізацыі. Саюз Моладзі Беларусі канчаткова страчвае ідэалагічны напрамак.

Сустрэча ў Беларусі лідэраў трох рэспублік — Шушкевіча, Ельцына, Краўчука. Сустрэча ў Алма-Аце, стварэнне СНД.

Крывавыя падзеі ў Тбілісі і Цхінвалі.

Адстаўка Міхаіла Гарбачова.

Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік спыняе сваё існаванне.

*Усё, пералічанае намі, хутчэй нагадвае праграму для іспыту па гісторыі для школ III тысячагоддзя. Застаецца спадзявацца, што будучыя вучні добра засвояць пройдзены намі матэрыял.*

## Ліст у нумар

*ПАВАЖАНАЯ "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"!*

*Вялікі табе дзякуй за плённую працу. Асабліва хочацца выказаць падзяку за змяшчэнне ў газеце "Земляробчага календара".*

*Мне, як працаўніку культуры, ён стаў настольным календаром, без якога не абысціся пры правядзенні народных святаў і абрадаў.*

*Парадаваў каляндар за лістапад, вельмі цікавы — за снежань. Спадзяюся, што і надалей каляндар будзе выходзіць кожны месяц.*

*Вялікі дзякуй.*

*З павагай М.Ленкавец, г.Ганцавічы.*



*"Ці хочаш ты пайсці за мной у маю таямнічую і самотную краіну, дзе ніколі не бывае сонца?"*

Трыстан.

# ФІЛАСОФІЯ СВЯТЛА

Любое зло мае накірунак. Няма зла агульнага, і як дабрыня не можа ахапіць усё, так не можа быць абстрактнага зла. Тысячы гадоў розум планеты шукаў адказу на пытанне: "Як перамагчы зло?" Адны лічылі, што змагацца з ім бессэнсоўна, бо ўсё падуладна Богу (лёсу, Карме...). Іншыя бачылі зло ў абліччы тых, хто схіляў галовы перад чужым алтаром, клаў крыж не ў той бок... І апошняя плынь у "злазнаўстве" — вызначэнне носьбітамі зла прадстаўнікоў пэўнага класа, той ці іншай сацыяльнай групы.

* * *

Пошук зла працягваецца. На два класічныя пытанні: "Хто вінаваты?","Што рабіць?" даецца адказ:"Вінаваты слабы. Вінаватага знішчыць". Вось надзённы прыклад дыферэнцыраванага падыходу да зла і яго носьбітаў... У чарзе па гарэлку дзейнічае "група захопу". Квадратныя хлапцы ў скураных куртках набіваюць кайстры спіртным і, азірнуўшы маўклівы натоўп, важна крочаць прэч. Праз пяць хвілін сямідзесяцігадовы стары з сівой галавой ледзьве не ўкленчвае перад натоўпам прапусціць яго без чаргі да запаветнай бутэлькі. У адказ столькі непісьменных выразаў, што калі б кожнае слова ператваралася ў кроплю, той вадкасці хапіла б, каб напаіць усе чэргі горада Мінска. "Пяшчотныя" ж вушкі "захопнікаў", відаць, не злавілі ніводнага крыўднага слова.



Дазвольце прадказаць, што ў чэргах па хлеб будзе тое ж самае. Дык дзе ж прычына? Пры якіх умовах прамень зла з невядомых касмічных глыбінь падае на тую ці іншую краіну, нацыю, сацыяльную групу? Якім законам падпарадкоўваюцца працэсы ўзлётаў і падзенняў дабрабыту народаў? Дый наогул, як можна параўнаць крытэрыі шчасця народа і асобы, планеты і адной нацыі? Няпростыя пытанні... Цяжкі час, цяжкі год сыходзіць ад нас, можа самы цяжкі ў жыцці тых, хто нарадзіўся пасля вайны.

* * *

Зараз у модзе канкрэтнасць. Людзей цікавіць, што, калі і ў які кошт будзе ў бліжэйшай да іхняга дома краме. Каго ж цяпер зацікавіш філасофскімі разважаннямі аб прыродзе зла, калі таго зла навокал столькі, што ніякім вядром не вычарпаеш... А між тым ёсць, ёсць прычына нашых няўдач! І не якая-небудзь касмічная завіруха, а самая, што ні на ёсць, празаічная. Прычына гэтая — ганарлівасць.

Напісаў гэтыя радкі, ды й падумаў: а хіба ў мяне таго гонару мала? Хіба мяне з маленства не вучылі: будзь не горш за суседа? Вучылі, ды яшчэ як вучылі! Вось цяпер і расплачваюся... Расплачваюся марнымі думкамі аб цёплым моры, аб відэаапаратуры, якая мне сто гадоў не патрэбная, аб тым, што, уласна кажучы, яшчэ ні па якіх параметрах не заслужыў, не зарабіў. А чаму не зарабіў? Таму, што спачатку гэта было немагчыма, бо закон парушаць нельга, цяпер жа — і бачыць не хачу сябе побач з "бізнесменамі", што на грошы кампартыі засноўваюць біржы пад той час, калі ў звычайных крамах гандляваць няма чым. Так, ніколі бізнес, асабліва буйны, не абыходзіўся без падману, закулісная барацьбы, інтрыг. У нашай краіне, дзе ніводзін чалавек, акрамя, можа, Алы Пугачовай, сумленна зароблених грошай не мае, як нідзе шчыльна зліліся структуры злачынныя, карумпіраваныя, з новымі, ужо ў межах закона дзеючымі структурамі. Так што, калі хочаш быць багатым, міжволі прыходзіцца хоць дзе-нідзе, а ахвяраваць сваім сумленнем.

А што рабіць тым, хто, паводле выражэння таўстаскурых, запакаваных у "Мерседэсы" хлопчыкаў, хоча "застацца чысценькім"? Паміраць з голаду?

* * *

Так, я хачу застацца чысценькім. Дакладней, чыстым. Бо паверыў у тое, што наша зямное жыццё толькі нязначная частка ад вечнасці кожнага з нас. Мы вечныя. Вечныя нашы душы, дзеля якіх мы па чыёйсьці волі наведваем гэты палігон, які называем жыццём. Пячорны ідэалізм, скажаце? Ну, калі ідэалізм — гэта памкненне да ідэалу, я — ідэаліст. Нікога вучыць не збіраюся, пераліваць з возера ў возера хвалі слоў не трэба. Проста хочацца паказаць людзям, прычым паказаць канкрэтна тое, што можа зрабіць іх зямное жыццё больш лёгкім, паказаць шлях, ідучы па якім, можна парваць залежнасць, стальныя тросы якой звязваюць нас з непатрэбнымі, часам нявартымі нават позірку рэчамі.

Ці слухалі вы "Севільскага цырульніка"? Відаць, слухалі, і нават "лавілі кайф". Аднак гэтая опера — рокмузыка дзевятнаццатага стагоддзя, бо менавіта пра яе тагачасныя медыцынскія свяцілы адгукаліся як аб шкоднай для здароўя. Тое ж самае гавораць цяпер і пра рок.

Гэтае — ці не яскравы прыклад таго, як людзі нішчаць свае душы? Адмаўленне ад вечнасці — дзеля адной хвіліны вядомасці, дзеля марнага, паветранага поспеху, дзеля пераканання ў мацнейшага, якія ніколі не стануць тваімі, але пазбаўляюць надзеі на святло неба ў абмен на бляск золата...

Калі зло не пераступае межы чалавечых законаў, яно, здаецца, злом і не лічыцца. І як жа прыцягальна для чалавечай натуры, у якой першародная цемра займае большую частку, служыць гэтаму законнаму злу!.. Адсюль нараджаецца канфармізм. Адсюль жа — і яго супрацьпастаўленне, яго проціглеглы полюс — экстрэмізм. Паміж імі — МЕРА. Ці памятаеце, як галоўная гераіня цудоўнага прароцтва Івана Яфрэмава "Час быка" мяняе на сваёй фрэсцы выяву скаванай ланцугамі Веры, да якой імкнецца слабы, абяздолены чалавек, на выяву моцнай, свабоднай Меры, што з вышыні пазнання працягвае руку пакрыўджанаму, каб падтрымаць яго, узнесці і даць яму магчымасць знайсці сапраўдную пазбаўленую ўсялякіх абмежаванняў радасць? Не, не скаваная Вера, а спакойная, упэўненая Мера можа прывесці чалавека да святла. Інфэрна, у якое вядзе чалавецтва абраны раз шлях, так проста не выпусціць са сваіх кіпцюроў чалавека, які прызвычаіўся ўжо бачыць выратаванне ад цяжкасцей жыцця ў матэрыяльнасці. Вучэнне Маркса з'явілася якраз апошнім промнем надзеі... Чаму ж згас гэты прамень, чаму ж чалавецтва адмовіла яму, такому прыцягальнаму знешне? Менавіта таму, што пры ўсім сваім розуме Маркс не ўявіў аднаго: чалавек па натуры злы, і выратоўваць яго душу трэба не дасягненнем агульнай роўнасці, а наадварот, спрыянню росту самых моцных, моцных менавіта духам, а не здольнасцю "уколваць" на карысць грамадства... Вядома, нельга заклікаць кожнага, падобна індыйскім ёгам, спаць на цвіках... Але вучыцца задавальняцца малым, абыходзіцца без раскошы трэба.

Нездарма царква знішчала тыя манаскія ордэны, якія прапаведавалі беднасць. У тых умовах, калі вера ў існаванне душы і яе вечнае жыццё была агульнай, вельмі лёгка было вучэнню беднасці захапіць розум чалавека, і тады наша цывілізацыя пайшла б іншым шляхам. Замест таго, каб выдумляць машыны, самалёты, тэлефоны, людзі, якія непазбежна развіваліся б духоўна, вучыліся лятаць. Ведаю, што калі вы прачытаеце гэтыя радкі — на тварах многіх з вас прамільгне ўсмешка. Але гэтая ўсмешка не з'яўляецца вынікам няверʻя. Вы верыце, так, верыце! І справа нашых сапраўдных духоўных бацькоў — Буды, Хрыста, Гандзі— абудзіць гэтую веру. Але гэта стане магчыма толькі тады, калі яе Вялікасць Мера стане той мэтай, для дасягнення якой абʻяднанае чалавецтва не пашкадуе ніякіх сіл, ніякіх сродкаў.

Дзякуй вам за спробу ашчасліўіць чалавецтва, шчырыя бальшавікі. Спроба не ўдалася. Але яна дала чалавецтву вопыт. Вопыт, амыты крывёю, асвістаны кулямі, пасыпаны попелам. Ахвяры не былі дарэмныя. Спроба не ўдалася таму, што наіўныя непісьменныя людзі пачалі блытаць, атаясамліваць памкненне з носьбітамі гэтага памкнення, камунізм - з партапаратчыкамі, як у свой час вучэнне Хрыста атаясамлівалі з царквой. Што ж рабіць, калі любое вучэнне мёртвае без яго носьбітаў... Заўсёды святымі панацэямі карысталіся для паляпшэння свайго дабрабыту алігархі, людзі, якіх выпадковы капрыз гісторыі ўзнёс на вяршыню піраміды грамадства. Піраміда — самая ўстойлівая пабудова. Яе падмурак — гэтая чалавечая маса, той жывы матэрыял, працай якога заўсёды карысталіся ўладары. Будучае грамадства не будзе нагадваць піраміду, хутчэй прамень святла, дзе кожны яго квант, кожная часцінка энергіі — чалавек. Чалавек будучыні будзе неспакоены, але яго неспакой будзе скіраваны толькі на рух, на самаўдасканаленне. Шлях, па якім ідзе зямное чалавецтва, шлях складанай тэхналагічнай цывілізацыі, гэта на самай справе не шлях, а першы крок для вызначэння неабмежаваных магчымасцей чалавечага арганізма. Гэта будзе не хутка. Ды й ці будзе наогул?

Рэвалюцыя ці эвалюцыя? Выбуховы працэс ці марудная, павольная хваля развіцця гісторыі? Час паказаў, што калі дзеля дасягнення святой мэты адбіраецца жыццё хаця б аднаго чалавека,— рух немагчымы. Участак гістарычнай спіралі непазбежна замкнецца ў кола, як гэта і адбылося зараз. Дык што ж, даць гісторыі магчымасць без удзелу чалавека самой вызначаць сваё аблічча? Не. На мой погляд, агульная думка ўсяго чалавецтва і з'явіцца тым самым голасам Боскім, які так хацелі пачуць філосафы розных часоў і народаў. Адзін чалавек не можа стварыць філасофію, калі нават ён пражыў бы дзесяць жыццяў. Сапраўдную мудрасць, сапраўдную філасофію здольна стварае толькі чалавецтва, і задача лепшых, самых разумных і адукаваных яго прадстаўнікоў, якім космас падараваў неўміручую энергію прагі да ісціны — паставіць перад чалавецтвам тыя пытанні, на якія яно можа і павінна адказаць. Не трэба баяцца чалавецтва. Трэба баяцца людзей, якія могуць заявіць: "Я ведаю, так трэба!" Яны не ведаюць, як трэба...

**Алесь Палынскі.**



Падрыхтаваў старонку Алесь Палынскі, рэдактар аддзела інфармацыі, маладзёжнага жыцця і маральна-этычных праблем.

# "Сёння час рашучых дзеянняў"

*Уладзімір Уладзіміравіч Ніканчык, супрацоўнік Дзяржаўнага камітэта па працы і сацыяльнаму забеспячэнню, кандыдат эканамічных навук, дырэктар навукова-вытворчага прадпрыемства "Эканатэх", разважае павольна, але вельмі слушна. Сустрэліся мы з ім у першы раз у студыі Беларускага тэлебачання, куды і ён, і я былі запрошаны для ўдзелу ў прамым эфіры "Кроку". Размова з ім, у чаканні свайго "зорнага" часу, вельмі зацікавіла, і таму я вырашыў працягнуць знаёмства, ну а паколькі справа набліжаецца да Новага года, то і размова, суадносна, круцілася ў асноўным вакол праблем і перспектыў, што чакаюць нас у наступным годзе.*



**Зм.ЛУКАШУК, аглядальнік "ЧЗ" па пытаннях эканомікі:**

**– Уладзімір Уладзіміравіч, мы ўжо даволі доўга гаворым аб тым, што неабходна ўводзіць рынак, а з чаго пачаць – ніхто і не ведае...**

— Ну, тое, што пачынаць такую справу трэба не з цэн, я магу сцвярджаць дакладна. Усё пачынаецца з распрацоўкі курсу. А распрацаваць правільны курс могуць толькі прэзідэнт і ўрад, якія карыстаюцца даверам народа. Адсюль высновы: немагчыма пабудаваць рынак, калі ўрад не здольны да радыкальных рашэнняў.

**– Што дасць нам у наступным годзе "Брэсцкі дагавор"?**

— Па вялікім рахунку — нічога. Не толькі ў будучым годзе, але і ўвогуле. Гэты дагавор, па вялікаму рахунку, быў больш патрэбны Расіі, чым Беларусі: яны такім чынам пазбавіліся ад другога прэзідэнта. Мы ж, дакладней наша кіраўніцтва, чакаем ад Расіі паставак па льготных цэнах сыравіны. Але гэта смешна. Калі мы ідзём да рынку, то нам, як і астатнім, давядзецца набываць тую ж самую нафту па сусветных цэнах. Ніхто не стане прадаваць яе таннеі за прыгожыя вочы.

Акрамя таго, нам наўрад ці выкараскацца, калі заходнія бізнесмены не пачнуць укладваць грошы ў вытворчасць на тэрыторыі нашай рэспублікі. А ўкладваць грошы стануць толькі туды, дзе няма канфліктаў. А паколькі мы залежныя ад таго, як увесь свет будзе ставіцца да нас, то нам неабходна гарантаваць кантроль над ядзернай зброяй, пераканаць, што мы цвёрда трымаемся курсу рэформ, гарантаваць, што капітал не будзе экспрапрыіраваны, як у 1917 годзе. Таму я не толькі супраць уваходу ў новы Саюз краін Азіі і Азербайджана, дзе шмат нявырашаных праблем. Я ўвогуле выступаю за тое, каб Беларусь вяла незалежную ўласную палітыку, а не кіравалася на Расію. Вось Прыбалтыка і Украіна ствараюць імідж краін стабільных і поўнасцю парваўшых з сацыялістычнай мінуўшчынай і, калі ўсё будзе добра надалей, капітал прыйдзе туды праз 3—5 год. А да нас? Таму ад СНД я нічога ў наступным годзе добрага не чакаю.

**– Ці будзе ў 1992 годзе ў беларусаў свая валюта?**

— Яна неабходная. Хутка Расія і Украіна ўвядуць свае грошы, і вялікая маса "драўляных" рублёў хлыне ў Беларусь. Гэта прывядзе толькі да новага скачка інфляцыі. Таму нам неабходна як найхутчэй пазбавіцца ад "драўлянага" рубля, які ў апошнія гады друкаваўся бескантрольна. Магчыма, з увядзеннем талера лепш не стане, але парадку ў фінансах пабольшыцца.

**– Дарэчы, пра інфляцыю. Якой яна будзе ў наступным годзе?**

— Што такое інфляцыя? Гэта калі грошы ў насельніцтва ёсць, а тавараў на паліцах крам не прыбаўляецца. Толькі тавараў у наступным годзе наўрад ці пабольшае — вытворчасць іх скарачаецца, а не нарошчваецца. Да таго ж, як я ўжо адзначыў, адсутнасць сваёй валюты не перашкаджае прытоку ў Беларусь новай вялікай грашовай масы... Паводле афіцыйных звестак, інфляцыя ў наступным годзе плануецца да 200 працэнтаў, на маю думку, рэальная лічба будзе значна большай.

**– Заходнія спецыялісты падлічылі, што, калі спад вытворчасці (ад неабходнага для жыццезабеспячэння) дасягае 20 працэнтаў, гэта вядзе да развалу і распаду эканомікі краіны. Чаго нам чакаць у гэтым плане ад будучага года?**

— Трэба ў дадзеным выпадку ўлічваць тое, што эканоміка рэспублікі ў значнай ступені працуе на вайну. І спад у 13 працэнтаў, які ў нас сёння існуе, дало нам у асноўным скарачэнне абаронных заказаў. Гэтыя прадпрыемствы павінны перапрафіляваца на выпуск мірнай прадукцыі. Але працэс гэты ў нашых умовах — справа не аднаго дня. І таму баяцца больш трэба не спаду вытворчасці, а таго, што ў выніку скарачэння штатаў шмат людзей апынуцца на вуліцы, без працы. Гэта будуць не лайдакі, а тыя, хто можа і жадае працаваць, але не мае такой магчымасці. Падобная сітуацыя можа скончыцца новай камуністычнай рэвалюцыяй.

**– Інфляцыя, скарачэнне вытворчасці, іншая трасца. А што ж рабіць людзям з тымі грашыма, што ў іх яшчэ засталіся?**

— Сапраўды, інфляцыя з'ядае тыя грашовыя запасы, якія яшчэ ёсць у насельніцтва, і таму, канешне, лепшае — гэта ўкладваць грошы ў нерухомасць альбо складаную бытавую тэхніку. Хоць яна не каштуе столькі, колькі мы за яе сёння аддаём, але, па-першае, заўтра яна будзе каштаваць яшчэ больш, а па-другое, цану вызначае дэфіцыт. Акрамя таго, выклікае нездаровы ажыятаж тое, што кіраўніцтва не абяцае ніякай індэксацыі пры новым павышэнні цэн — гэта зняло б напружанне на рынку. І ў хуткім часе людзі, мала зарабляючы і не маючы магчымасці на гэтыя грошы хоць неяк больш-менш добра забяспечыць сваё жыццё, страцяць цікавасць да працы, што прывядзе да хаосу на вытворчасці і масавых выступленняў працоўных, якія пойдуць граміць камісійныя крамы.

**– А што ў рэшце рэшт будзе з прыватызацыяй?**

— Прыватызацыя жыццёва неабходна, і яна, напэўна, будзе праведзена ў сельскай гаспадарцы і сферы абслугоўвання. У гэтых дзвюх галінах павінна быць праведзена вольная прыватызацыя. Хто хоча працаваць — няхай бярэ ў арэнду, выкупляе, галоўнае, каб нешта рабіў.

Іншая справа — прамысловасць. Ценевікі, што скупляюць сёння ўвесь тавар у крамах і перапрадаюць яго ў камісіёнках, будуць праціўіцца гэтай прыватызацыі, пакуль не стануць здольнымі прыбраць заводы да сваіх рук. Таму што толькі манаполія дае звышпрыбыткі. Пры сапраўдным рынку манаполіі быць не можа. Яны гэта выдатна разумеюць. Таму з прадпрыемстваў трэба ствараць акцыянерныя кампаніі, даваць арэнду з выкупам і інш. з абавязковым удзелам у гэтым працоўных.

**– А што калі нам стаць эканамічным дадаткам да якойсьці развітой капіталістычнай краіны, пастаўляць ім сыравіну і танную працоўную сілу?**

— Я ўжо казаў, што для гэтага рэспубліцы неабходна стварыць імідж стабільнай краіны, куды можна ўкладваць грошы. А мы на сённяшні дзень такой краінай не з'яўляемся. Паглядзі сам: пік стварэння СП даводзіцца на 1987—1988 гг. Захад не бачыць у нас аб'екта для ўкладання сродкаў. Савет Міністраў амаль не праяўляе ніякай ініцыятывы ў гэтым плане. У нас нават няма кантактаў з беларусамі за мяжою, якія маглі хаця б з нацыянальных памкненняў укласці грошы ў развіццё эканомікі сваёй радзімы. Так што бліжэйшы тэрмін, калі я чакаю заходніх капіталаў на нашай зямлі, не раней чым праз 5 год.

**– Перспектывы атрымліваюцца – не вельмі...**

— Так. І паляпшэння ў наступным годзе не будзе.

**– Дзе вы будзеце сустракаць Новы год, Уладзімір Уладзіміравіч?**

— Сярод членаў сваёй сям'і.

**– І за што будзеце ўзнімаць фужэр шампанскага?**

— За тое, каб, крытычна пераглядзеўшы свае становішча, знайсці прымяненне сваім здольнасцям і працаваць па-сапраўднаму, аддаючы, што маю, і добра за гэта атрымліваць. Чаго і вам жадаю!



Укладвайце у нас грошы?.. Фота С.Брушко.

$ $

Шаноўнае спадарства!

Вітаю Вас з новым жыццём — жыццём па купонах.

$ $



# ОЙЧА НАШ...









У гэтым годзе свята Ражства Хрыстова ўзведзена ў ранг агульнанацыянальнага свята. 25 снежня яго на Беларусі святкавалі каталікі. Упершыню за шмат гадоў прыйшлі святкаваць Ражство ў свой касцёл жыхары гарадскога пасёлка Гарадзея ў Нясвіжскім раёне. Пасля доўгіх пакут будынак касцёла быў вернуты вернікам. А да гэтага тут была і канюшня, і склад, і піўны бар. На святочную службу прыйшло шмат людзей, і не толькі каталіцкага веравызнання, было шмат дзяцей. І хаця рамонт будынку працягваецца і ўнутры ён яшчэ мала нагадвае храм, твары ў людзей былі святочнымі.







**Здымкі фотакарэспандэнта "ЧЗ" Сяргея БРУШКО.**

Водгук

# Не пагаслі зоркі ў небе...

У № 50 "Чырвонае змены" на старонцы "Сумежжа" я прачытаў артыкул Васіля Брыля "Геній трох народаў" да 70-годдзя з дня сьмерці Мікалая Андрэевіча Янчука, аб якім напісала кнігу Г.А.Пятроўская, супрацоўніца Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Між іншым В.Брыль піша: "...Вядомы М.Янчук і як перакладчык з чэшскай, польскай моў. А з беларускай на рускую мову пераклаў некалькі вершаў Янкі Купалы. Сярод іх і "Не загаснуць зоркі ў небе", які неўзабаве стаў Беларускім дзяржаўным гімнам. Знамянальна, што музыку да яго напісаў ён жа.

Вось бы аднавіць яго і апублікаваць! Гэта ж нацыянальны здабытак! Але дзе ўзяць ноты? З кароткай размовы з Г.Пятроўскай даведаўся, што яны, магчыма, згубленыя. Праўда, Ґаліна Аляксандраўна выказала нясмелую надзею: можа, хто-небудзь са старэйшых беларусаў памятае мелодыю?".

Я ня толькі памятаю мелодыю, але маю ноты і тэкст Беларускага дзяржаўнага гімну, памятаю і Беларускую Народную Рэспубліку. Мне 86-ы год, мая родная вёска Лявонавічы Слуцкага павету Менскай губерні трапіла пад акупацыю буржуазнай Польшчы, і мы апынуліся на самай дзяржаўнай мяжы.

Пасылаю дарагой рэдакцыі ноты і тэкст Беларускага дзяржаўнага гімну "Не пагаснуць зоркі ў небе". Я вельмі рады, што магу гэта зрабіць.

З пашанай

Сяргей Новік-Пяюн.

## Не пагаснуць зоркі ў небе

**Беларускі дзяржаўны гімн**

*Музыка Міколы Янчука*
*Вершы Янкі Купалы*

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе, —
Не загіне край наш родны
Покі будуць людзі.




Ночка цёмная на сьвеце
Вечна не начуе;
Зерне, кінутае ў ніву,
усходзе ды красуе.

Беларускаю рукою
Сьветлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Беларусі мілай.

Зацьвіце наш край, як сонца
Пасьля непагоды,
У роўнай волі, у роўным стане
Між усіх народаў.

"Школьны сьпеўнік", А.Грыневіч, Вільня,1920,№15.

# СВЯТА З КАЛОДЗЕЖНЫМ ВІНОМ...

*Наш карэспандэнт папрасіў расказаць пра тое, як і з чым святкуюць цяпер у суседніх дзяржавах, што чакаюць у 1992 годзе,*

Гістарычнае фота



*Змяняюцца гады, змяняюцца святы, змяняюцца эпохі, змяняюцца іх сімвалы... На здымку, зробленым у верасні 1991 года ў Вільнюсе, — тое, што заставалася ад помніка Леніну, які некалькі дзесяцігоддзяў закрываў сабою гэты прыгожы хрысціянскі храм. Цяпер манумент разбураны, і на пачэснае месца выйшаў касцёл. Зрэшты, такія перамены адбыліся і ва ўсім літоўскім грамадстве: хрысціянскія, каталіцкія каштоўнасці выціснулі і камуністычную "мараль", і камуністычнае ідалапаклонства. Думаецца, шкадаваць не варта.*

**Фота В.Куліка.**



**Выпуск "Сумежжа", прысвечаны міжэтнічным пытанням і сувязям з суседнімі народамі, рыхтуе да друку журналіст Валер Каліноўскі.**

### *Лідзію Палукееву з Рэзекне (Латвія)*

— Якія ў нас раней святы былі? Ды святкавалі тое ж, што і ва ўсім "Саюзе непарушным", нацыянальнае было напаўзабаронена. Адрозненні ж з'явіліся летась, пасля дэкларацыі аб незалежнасці. Цяпер у нашым календары можна палічыць 11 "чырвоных", так бы мовіць, дзён. Сярод іх — Дзень маці, што адзначаецца ў другую нядзелю мая, свята Ліго, Янаў дзень (22—23 чэрвеня), Вялікдзень, Дзень незалежнасці. На сьвяточным календары захавалася 1 Мая, але не толькі як Дзень працы, яно мае свае карані ў гісторыі незалежнай Латвіі — у гэты дзень у 1920 годзе быў скліканы Устаноўчы сход нашай дзяржавы.

Але адно з важнейшых і найбольш шанаваных у народзе свят — Раство, каляды, што адзначаюцца ў нас 25—26 снежня, і Новы год, вядома. Сёлетнія каляды — свята ўсенароднае. Акрамя гэтага, яны маюць шэраг адметнасцяў у параўнанні з камуністычным часам. Да іх прымеркаваны калядныя канікулы ў школах. Амаль ва ўсіх гарадах цяпер праводзяцца спецыяльныя перадсвяточныя выставы ўпрыгожанняў ёлак, залаў ці кватэр, дзе ўсё можна купіць, там жа прадаюцца падарункі, вырабы народных майстроў, арыгінальныя паштоўкі.

Каляды і Новы год латышы звычайна сустракаюць з песнямі, танцамі, выдумкамі. Даўней быў прыняты адзін з галоўных рытуалаў — катанне бервяна (часцей дубовага) ад хаты да хаты, што сімвалізавала збор усяго нядобрага, што было за год, і спальванне яго, якое адлюстроўвае радасць людзей з-за таго, што сонца (агонь) вяртаецца, а дзень большае. Усё гэта суправаджаецца паходам гуляючых у масках, "у цыганы", як гавораць у нас...

Для Латвіі цяпер характэрна вяртанне да старых традыцый... А, паводле іх, у калядную ноч на стале павінна быць шмат ежы: 9 розных страў (магічны, паводле нашай міфалогіі, лік), у тым ліку фаршыраваная свіная галава, гарох, боб, крывяная каўбаса, мяса, піва... Паводле звычаю, у сьвяточную ноч трэба многа есці і піць, мала спаць...

Але цяжка сказаць, ці ў кожным доме на стале будуць тыя стравы. У крамах усяго мала, і ўсё дорага: масла каштуе 73 рублі за кілаграм, малако (1 літр) 3 рублі, торт, вельмі просценькі — 30—40 рублёў, а калі на заказ, то пад 70, яблыкі — 10, мандарыны — 23—25 рублёў... Ды што там прысмакі, хлеб каштуе 3—5 рублёў, а ў Рызе па яго чэргі, малака не хапае, бо бракуе бензіну, каб яго вывезці... З прамысловымі таварамі таксама вельмі кепска. Самае ж дрэннае, што няма дзіцячага адзення і абутку.

Але ўсё ж мы не ўступаем у новы год з чорным песімізмам. На наступны год урад збіраецца ўвесці сваю валюту — латы, узмацніць мытны кантроль — павінна быць лепей. Спадзяёмся і на рыначныя крокі нашага ўрада.

### *Эдвардса Саткявічуса з Каўнаса (Літва)*

— Цяпер у нас вельмі актыўна адраджаецца каталіцызм. Касцёл набірае сілу і прэтэндуе на значную ролю ў жыцці грамадства. Нават на апошнім з'ездзе "Саюдзіса" перш чым заспяваць літоўскі дзяржаўны гімн, дэлегаты прачыталі малітву... Таму, відавочна, што рэлігійныя святы цяпер у нас самыя паважаныя. А сярод іх — каляды. Апошні дзень перад Раством — куцця — у нас традыцыйна сямейнае свята, якое мае свае карані ў паганстве і сімвалізуе сустрэчу жывых з ценямі продкаў. У дом заносяць сена, на стол выстаўляецца не менш чым тузін посных страў: рыба, пірагі, грыбныя стравы, кісель...

А на каляды ўжо ходзяць у касцёл, у госці, весяляцца, шмат песень пяюць, варожаць. Ёлкі прынята ўпрыгожваць у дзень куцці, а разбіраюць іх праз 12 дзён у дзень трох каралёў, калі і заканчваюцца калядныя святы. Кожны з гэтых 12 дзён пры варажбе на наступны год сімвалізуе адпаведны месяц.

Паводле народных вераванняў, у калядную ноч адбываюцца розныя цуды: жывёла размаўляе па-чалавечы, калодзежная вада ператвараецца ў віно...

З падарункамі сёлета ў нас кепска. Людзі не задаволены, што нават цукерак цяжка купіць... Без чаргі нешта набыць, лічы, немагчыма. У гэтым сэнсе цяпер не вельмі прыемна святкаваць...

Але людзі ў пераважнай большасці лічаць, што трэба пацярпець, што з часам будзе лепей. Зараз у нас распачаўся працэс дэманапалізацыі, вялікія прадпрыемствы раздзяляюць на малыя, праводзяць першасную прыватызацыю сярод калектываў. Грамадзяне атрымалі інвестыцыйныя чэкі для прыватызацыі кватэр ці іншай маёмасці на аўкцыёнах. А вось жыллё, пабудаванае да 1940 г., не прыватызуюць, бо магчыма іх вяртанне былым гаспадарам. Так што некаторыя і варожаць, ці выселяць на наступны год ці не... Створана таксама камісія па вяртанню зямлі. Аднак ці будзе на будучы год дэкалектызавана сельская гаспадарка — цяжка сказаць. Ёсць каму супраціўляцца гэтым працэсам...

### *Івана Гарбачука з Кіева (Украіна)*

— Вярхоўная Рада Украіны зацвердзіла пакуль што народныя святы: Каляды, Вялікдзень, Тройцу... І яшчэ невядома, які дзень прызнаны нацыянальным святам: ці 16 чэрвеня (калі ў 1990 годзе была прынята Дэкларацыя пра суверэнітэт), ці 24 жніўня (калі прагалошана незалежнасць), ці 1 снежня, дзень усенароднага рэферэндуму...

Раней калядныя і навагоднія святы на Украіне абмяжоўваліся ёлкаю, дзіцячымі ранішнікамі — ды й усё. Гэта афіцыйна. Аднак на працягу ўсяго часу былі такія самадзейныя групы, што хадзілі па хатах, калядавалі, святкавалі паводле народных традыцый.

Думаю, што і ўсё святкаванне будзе арыентавацца па іх, прынамсі для тых, хто яшчэ памятае тыя народныя традыцыі. Нейкіх інструкцый, "указівак" на гэты конт няма, так што святкуюць як хто ведае...

Увогуле вясёлага цяпер у нас небагата, настрой у многіх не з лепшых. Цяпер нават з хлебам перабоі ў нас, чаго мы ніяк не маглі чакаць у такой багатай краіне, як наша... Аднак большасць проста радуецца незалежнасці, самастойнасці Украіны, як бы не было цяжка матэрыяльна, якія б духоўныя праблемы нас не прыгняталі... Спадзяёмся, што цяпер, нарэшце, пачнуцца зрухі ў лепшы бок, што эканамічны спад будзе спынены — Украіна ж мае магутны патэнцыял...

А дзецям падарункі ёсць. Арганізаваны розныя дзіцячыя выстаўкі і ў Доме настаўніка, і ў лялечным тэатры... Праз арганізацыі і прафсаюзы распаўсюджваюцца запрашэнні на іх, дзе дзеці маюць і падарункі, і цукеркі...




# №1 (191)




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка.

*Гіт-парад*

# Рок-прэзент з Мюнхена

*Навагодні прэзент беларускім рок-фанам зрабіла акурат напярэдадні свята, 29 снежня, радыёстанцыя "Свабода". У гэты дзень выйшаў трэці паўгадзінны выпуск беларускага гіт-парада.*

Натуральна, кожны гіт-парад — гэта творчасць ягоных удзельнікаў — слухачоў і чытачоў, іхняя актыўнасць.

Асабліва зацікаўленым, нераўнадушным слухачом аказаўся, напрыклад, Андрусь Падлескі з Менска. Сярод шматлікіх ягоных прапаноў, якія змясціліся ажно на чатырох аркушах, ёсць і такія, што датычаць непасрэдна "Чырвонай змены" і ейнага "Нотнага аркуша".

Вось адна цытата: "Сёлета "ЧЗ" не выпісваў, але акурат у гэты час "Нотны аркуш" пачаў з'яўляцца рэгулярна, а ў кіёску газету, аказалася, не заўсёды купіш. Гэта і вырашыла маю праблему з падпіскай на 1992 год. Хацелася б, каб ваша старонка была сапраўды "Беларускім нотным аркушам". Я — за разнастайнасць стыляў (рок, дыска, класіка, фальклор), але хай гэта будзе ўсё нашае. Ангельскі, амерыканскі, расейскі рок не абдзелены ўвагай прэсы, а тыя, хто цікавіцца музыкай беларускай, літаральна сядзяць на інфармацыйнай дыеце".

Прыемна, што ёсць такія заклапочаныя людзі. Але, калі ласка, сустрэчнае пытанне: скажыце, пра каго з беларускіх выканаўцаў, імёны якіх мы бачым у гіт-спісах, не пісаў "Нотны аркуш"? Іншая справа, што ўвага да беларускай музыкі не была б плённай, каб мы замкнуліся, адгарадзіліся ад сусветных узораў. Разам з тым, прэстыж беларускага рока толькі выйграе, калі гаворку аб ім весці, не баючыся канкурэнцыі ні "Лэйды Панк", ні Стынга, ні Ж.-М.Жара, ні — тым больш — розных "Арый" ды "Майстроў".

Цудоўна разумеем і ўдзельніка гіт-парада з Магілёўшчыны (в.Коўбча Клічаўскага раёна) Алеся Пугача: "Я вельмі люблю рок-музыку і мяне заўсёды здзіўляла, чаму ва ўсіх народаў ёсць рок-зоркі, а ў беларусаў няма, пакуль не пачуў у 1989 упершыню "Мрою". Потым былі "Мясцовы час", Данчык, "Грамада" і г.д. І ў сэрцы нешта абудзілася".

Дык няхай жа абуджаюцца сэрцы і ў іншых, хто чуе на кароткіх хвалях магутныя акорды беларускага рока. Той пераднавагодні выпуск табліцы № 3 (снежань) гіт-парада радыё "Свабода" выглядае так:

1. "Аліса" (муз.і сл.С.Хамякова). "АЛЕН".
2. "Лязо" (В.Корань — Ф.Аксёнцаў). "УЛІС".
3. "Аксамітная вада" (І.Вайцяхоўскі — З.Лукашук). "РОКІС".
4. "Да зорак" (І.Варашкевіч — М.Анемпадыстаў). "БОНДА".
5. "Айчына, радзіма" (В.Цярэшчанка — А.Барскі). Вальжына ЦЯРЭШЧАНКА.

6-7. "Ліхадзеям на зло" ("Грунвальд" — А.Дэбіш). "ГРУНВАЛЬД".

6-7. "Шлях дамоў" (А.Кузьмін — А.Аркуш). "МЯСЦОВЫ ЧАС".

8. "Не шукай" (І.Любан — А.Русак). ДАНЧЫК.
9. "Не кусай ты мяне" (муз.і сл.В.Шалкевіча). Віктар ШАЛКЕВІЧ.
10. "Дзве душы" (муз.і сл.А.Камоцкага). Алесь КАМОЦКІ.



Як бачым, у гарачай беларускай дзесятцы — чарговая змена лідэра. Цяпер табліцу беларускага музычнага Алімпа, які знаходзіцца за бугром, узначаліў малады спявак і кампазітар, а таксама аўтар тэкстаў Сяржук Хамякоў, які выступае пад псеўданімам "Ален". Яго, як нашага лаўрэата, вы і бачыце на здымку. А хто ж будзе наступны? Нам таксама карціць пра гэта даведацца, бо гэта залежыць ад таго, як размяркуюцца балы пасля падліку вашых галасоў, якія трэба накіроўваць на адрас "Нотнага аркуша".

**Вінцук Гуненка.**

*Беларуская рок-тусоўка*



У 1991 годзе беларускі рок з імпэтам вітаў беларускую незалежнасць. Ідэя Адраджэння з'яднала рок-музыкаў розных напрамкаў, і ў Менску сабраліся сталічная "Мроя", наваполацкі "Грунвальд", полацкая "Дзіда", віцебская "Грамада" і г.д. Сёння беларускія рокеры з аптымізмам глядзяць у заўтра.

**Фота У.Панады.**

# Год мінулы, год наступны

*Дыскаграфія беларускай поп-музыкі за 1991 г. атрымала прыкметнае папаўненне: гэта і альбом "Равеснікі" Данчыка, які выйшаў у ЗША, і альбом "Чужаніца" рок-гурта "Уліс", які выпусціла маскоўская "Мелодыя", і шэраг іншых выданняў. Што датычыцца перспектыў у гэтым пытанні, дык і тут ёсць немалы задзел. Рок-гурт "Зарціпо" запісаў у Маскве альбом, які выйдзе на "Мелодыі" кружэлкай у 1992 годзе. Сяржук Сокалаў-Воюш, адсвяткаваўшы ў Наваполацку сваё вяселле, паехаў з маладой жонкай, доктарам з Нью-Йорку Ганнай Бартуль, у падарожжа па Амерыцы, дзе, натуральна, будуць і канцэрты, а магчыма і новыя запісы.*

* * *

*Мінулы год азнаменаваў сабою канец усесаюзнай фанаграфічнай манаполіі пад назвай "МЕЛОДЫЯ". Паўстала шэраг новых фірм, сярод якіх найбольш прыкметную дзейнасць разгарнулі "СНСі-рэкордс", "РЫТОНІС", "СІНТЭЗ". Як бачым, зноў фірмы Расіі, Латвіі. Хочацца спадзявацца, што хоць новы, 1992 год абудзіць фанаграфічную актыўнасць у Беларусі.*

* * *

*1991 год — гэта канцэрты "Уліса" ў Нямеччыне, "Мроі" — у Францыі, "Рокіса" — у Польшчы. Нашыя зоркі маглі скарыць і Амерыку, каб не "ўсесаюзны" АВІР (як памятаеце, Вальжыне ЦЯРЭШЧАНКА затрымалі выезд у Канаду, куды яе запрасіла Задзіночанне Беларусаў Канады). Хацелася б, каб у 1992 годзе кампетэнтныя органы суверэннай Беларусі змаглі вырашаць падобныя пытанні з большай карысцю для беларускай музыкі.*

* * *

*Якіх зорак адкрыў "НОТНЫ АРКУШ" у 1991 годзе? Іх нямала: "Грунвальд" (6 верасня), "Ален" (5 ліпеня), Едрусь Акулін (18 студзеня), "Дзіда" (14 чэрвеня), "Рокіс" (7 чэрвеня), Лера Сом (15 сакавіка)... Што ж, наўрад ці гэтым вычарпаюцца таленты на зямлі беларускай, таму і надалей будзем пільна прыглядацца да айчыннага наваколля. А сёння сваю навагоднюю маску дэманструе на здымку полацкі гітарыст Валеры Воліс.*



# Навошта адрываць календары!

Вы адарвалі першы лісток календара? А навошта? Да адрыўнога календара можна прыладзіць тонкую гумку альбо сураву нітку і проста перакладваць лісткі. Няхай гэта маленькая кніжка застанецца для гісторыі.

Вось і гэты каляндар, мабыць, не кожны асмеліцца псаваць, тым болей, што ён пакуль не так адрыўны, як сувенірны. Зверху лісткі не маюць звыклага надрэзу, а ў аснове — проста белае палатно. Няма кардонкі ці бляшанкі, каб можна было лацвей прымацаваць да сцяны. Пакуль не дазваляе тэхналогія. Але не страшна. Ёсць вынік працы, якую цяжка пераацаніць, — адрыўны беларускі каляндар "Родны край".

Давайце згадаем тых, хто працаваў над ім, бо мы не так часта гэта робім, да крыўднага не часта. Рэдактарыскладальнікі Законнікава Алена Іванаўна, Балвановіч Валянціна Хайрулаўна. Мастацкі рэдактар А.І.Інкін, тэхнічны рэдактар Л.Л.Масцерава. Карэктары Р.П.Іваненка, Н.М.Масарэнка, Л.Ф.Ліхадзіеўская. А яшчэ шэраг аўтараў тэксту і мастакоў.

Вось і беларусы дачакаліся нарэшце ўласнага адрыўнога. Летась, упершыню пасля доўгіх дзесяцігоддзяў нацыянальна-палітычнага міжсезоння, выдавецтва "Беларусь" аднавіла добрую традыцыю нашых календароў. Праўда, тады сорак тысяч паасобнікаў разышліся — толькі іх і бачылі. Хто бачыў, а хто і не. Ёсць рэчы, якім не патрэбна рэклама. Рэклама то не патрэбна, але ж і нашы выдавецтвы не навучыліся яшчэ выстаўляць сваю прадукцыю, асабліва беларускамоўную, фасадам. У выніку нават пра існаванне таго календара многія не ведалі.

"Родны край -1992" мае стотысячны наклад. Цяпер, здаецца, хопіць усім. Ці ўсім? Сёння і надалей "Роднае слова" мяркуе штомесяц змяшчаць асобныя найбольш цікавыя фрагменты календара. Ды лепей адзін раз убачыць, чым сем разоў пачуць. Таму спяшайцеся ў кнігарню.

**Уладзімір Міхно.**



*РОДНЫ КРАЙ*

# Студзень






**Вядучы выпуска "Вытокі" Уладзімір МІХНО, агляда́льнік па пытаннях беларускай мовы і літаратуры.**

Вадаёмы скаваны лёдам і пакрыты снегам. Глухая пара. Дні кароткія. Трашчаць маразы. Мятуць завеі.

7. Аўторак. КАЛЯДЫ (РАСТВО ІСУСА ХРЫСТА).

У гэты дзень згадваецца і праслаўляецца нараджэнне ад Дзевы Марыі ў Віфлееме Іўдзейскім сына Божага Ісуса Хрыста.

### КАЗА

На каляды беларускія шчадроўнікі "водзяць казу".

Чаму менавіта каза трапіла ў найважнейшы – бо пачынае год і ладзіцца ў гонар Сонца-бога – беларускі абрад? Відаць, невыпадкова. Як кажа беларуская прымаўка, дарма і каза не скача.

Паводле адной афрыканскай легенды, менавіта казе даручыў Бог перадаць людзям вестку пра тое, што яны пасля смерці трапяць да яго на неба – вестку пра бяссмерце. Выявы гэтай жывёліны знойдзены ў наскальных малюнках у гарах Арменіі. У Старажытнай Грэцыі, пачынаючы з II тысячагоддзя да н.э., сярод простага люду быў шырока распаўсюджаны культ Дыяніса – бога раслінnасці. Яго ўяўлялі пераважна ў выглядзе казла. Пад нагою ці капытом гэтага бога мог "пырснуць" фантан віна ці малака... Падобныя ўласцівасці мае і каза, якую водзяць беларускія шчадроўнікі:

*Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць,*
*Дзе каза хвастом, там жыта кустом,*
*Дзе каза нагой, там жыта капой...*

Хто ж быў такі магутны, каб рабіць такія "чары"? Пэўна ж, не сама каза. Яна была толькі атрыбутам, вестуном самага старажытнага і магутнага славянскага бога – Рода. Яго лічылі апекуном раслінnасці і земляробства.

**Здзіслаў Сіцько.**

9. Чацвер.
515 гадоў з часу першага ўпамінання (1477) у гістарычных крыніцах г.Бярозы.

11. Субота.
80 гадоў назад (1912) у Пецярбургу пачаў выдавацца альманах "Маладая Беларусь". У 1912-1913 гадах выйшлі 3 сшыткі.

13. Панядзелак.

### СТАРЫ НОВЫ ГОД (Шчадрэц).

Вечар напярэдадні Старога Новага года насіў назву "Шчадрэц". Атрымаў ён яе ад абрадавай вячэры – "шчодрай куцці". Куцця і сапраўды была шчодрай і багатай. Увішныя гаспадыні "налівалі" крывянку, смажылі кілбасы, ставілі на стол свежаніну, бліны і верашчаку, а пад абрус клалі салому ці сена, загадваючы на будучы ўраджай. Згодна з уяўленнямі старажытных часоў, чаго не было на стале на Новы год, не будзе ў хаце цэлы год, таму і завіхаліся так гаспадары, каб забяспечыць дабрабыт на будучае.

Колькасць страў на стале таксама была магічнай: сем, дзевяць, дванаццаць. Кожны гаспадар, "устаўшы раненька і ўмыўшыся беленька", абыходзіў усю гаспадарку, абсыпаючы зернем, каб зарадзіўся добры ўраджай. У некаторых месцах абрад засявання выконваўся малымі дзеткамі, што хадзілі ад хаты да хаты, павесіўшы торбу з зернем і нібыта сеючы, віншавалі гаспадароў, жадаючы ім дабрабыту і багацця на Новы год. А маладзенькіх дзяўчат, вядома, цікавіла адно: ці хутка яны пойдуць замуж. Загадванні былі самымі рознымі: пра нораў суджанага (памяркоўны ці ліхі), бедны ён будзе ці багаты, бо вядома, што "за добрым мужам і варонка – жонка, а за благім – і княгіня загіне". Самую прыгожую з дзяўчат апраналі "шчодрай" у святочныя строі. Са "шчодрай" хадзілі па хатах, спявалі песні гаспадарам, жадалі ім усялякіх дабрасцяў на ўвесь год і, вядома, не міналі той хаты, дзе былі маладыя хлопцы, жадалі ім добрай жонкі, каб была хлопцу па сэрцу і бацькам даспадобы. За спевы дзяўчатам выносілі пачастунак. Каля кожнай хаты гучала:

*Добры вечар, шчодры вечар,*
*Добрым людзям на здароўе!*

**А.М.Райкова.**

14. Аўторак.
415 гадоў з дня нараджэння Мялецін Сматрыцкага (свецкае імя Максім Герасімавіч; 1577-1633), беларускага і ўкраінскага пісьменніка-палеміста, грамадска-палітычнага і царкоўнага дзеяча.

50 гадоў з дня нараджэння (1942) Веры Вярбы (сапр.Сакалова Гертруда Пятроўна), беларускай паэтэсы.

15.Серада.
70 гадоў назад (студзень 1922 г.) выйшаў з друку зборнік паэзіі Я.Купалы "Спадчына".

16. Чацвер.
740 гадоў з часу першага ўпамінання ў летапісах (1252) гарадоў Навагрудак (Новгородок), Слонім (Услонім, Вслонім), Ваўкавыск (Волковысек) і Здзітаў (цяпер вёска ў Бярозаўскім раёне).

18. Субота.
705 гадоў з часу першага ўпамінання (1287) у летапісе Кобрына.

19. Нядзеля. ВАДОХРЫШЧА (Хрышчэнне Ісуса Хрыста, Багаяўленне).
Свята, на якое згадваецца і праслаўляецца Хрышчэнне Ісуса Хрыста на рацэ Іардан. Багаяўленнем называецца гэта свята таму, што пры хрышчэнні Госпада з'явілася святая Тройца: Бог Айцец гаварыў з неба пра Сына, Сын Божы хрысціўся Іаанам і засведчаны Богам Айцом, і Дух Божы сышоў на Сына ў выглядзе голуба. 18 і 19 студзеня ва ўсіх храмах адбываецца асвячэнне вады.

20. Панядзелак.
100 гадоў з дня нараджэння Б.А.Тарашкевіча (1892-1938), беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча, філолага, аўтара першай "Беларускай граматыкі для школ".

22.Серада.
1863 — пачатак паўстання 1863-1864 г.г. на Беларусі, у Літве і Польшчы.

26. Нядзеля.
1990 — прыняты Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі "Аб мовах у Беларускай ССР".

31. Пятніца.
100 гадоў з дня нараджэння А.К.Гурло (1892-1938), беларускага паэта.

### З НАРОДНАГА ГУМАРУ.

– Як табе, Піліпе, не сорам? Усе людзі ў полі, а ты дома ляжыш?
— А дзе ж я ў тым полі паляжу, калі зямля сырая. Яшчэ прастуджуся.

# Ой Каляда, Каляда...



*Каляды... Гэта свята спраўляюць усе ўсходнеславянскія народы. І адзначаюць яны гэта свята з даўніх дахрысціянскіх часоў. У песнях, прысвечаных святу, услаўляецца багіня Каляда. Але цікава тое, што ніхто толкам не можа сказаць, якое месца ў славянскім язычніцкім пантэоне багоў яна займала.*



Вядзе старонку Мікола БАГАДЗЯЖ, аглядальнік па пытаннях гісторыі і нацыянальнай спадчыны.

У кожнага народа свой пункт гледжання. Ды нават у Беларусі ў розных рэгіёнах гэта пытанне тлумачаць неаднолькава. У многіх раёнах Брэстчыны Каляда лічыцца жонкай бога Перуна і маці Дажджбога. З гэтага вынікае, што галоўны ўсходнеславянскі язычніцкі бог Дажджбог малодшы за Перуна па ўзросту і "пасадзе". У насельніцтва Усходняй Беларусі захаваліся рэшткі іншых міфічных уяўленняў. На Гомельшчыне, напрыклад, лічаць, што Дажджбог, ён жа Далібог, ён жа Сварог, ён жа Хорс (розныя плямёны называлі яго па-рознаму) старэйшы за ўсіх вядомых нам багоў славянскага пантэона і з'яўляецца сынам багіні Зямлі і бога Неба. Гледзячы па ўсяму, гэта паданне найбольш архаічнае. Вельмі цікавыя выказванні аб Калядзе сустракаюцца ў кнізе С.Хмары "Аб багох крывіцкіх сказы" (Таронта, 1986). Хмара прама называе гэту багіню прамаці, ад якой пайшлі ўсе іншыя. У гэтых варыянтах багоў значна менш. Пазней жа, з развіццём грамадства, узнікла неабходнасць з'яўлення шэрагу новых багоў — апекуноў тых ці іншых заняткаў і сфер дзеяння. У гэты ж час, гледзячы па ўсяму, Пярун (які быў да таго богам грому, навальніцы) з-за ўзрастання ролі ваяроў у перыяд ваеннай дэмакратыі, становіцца патронам мужоў-ваяроў і богам вайны. Такім чынам, ён займае галоўную пасаду. Функцыі ж Дажджбога паступова былі падзелены паміж новымі багамі. Так, напрыклад, з'явіўся Ярыла — бог менавіта сонца, і бог агню Жыжаль. У гэты ж час узнікла неабходнасць падзелу паміж некалькімі бажаствамі і функцый прамаці (або вялікай маці Мокашы). Так з'явілася цэлая плеяда багінь: Лада (багіня кахання), Мая (багіня юнацтва і вясны), Рось (багіня падземнага царства).

Паколькі Пярун стаў галоўным богам, то павінна была з'явіцца і багіня — яго жонка. Гэта і была Каляда. Паводле некаторых міфаў, яна была дачкой Мокашы. Што ўваходзіла ў яе функцыі — па іх разгледзець цяжка. Па іншых жа міфах Каляда — дачка бога марозу Зюзі (нешта накшталт Снягурачкі) і тады яна з'яўляецца, уласна, багіняй зімы. Цікавы міф удалося запісаць у Баранавіцкім раёне. Прыход Каляды (свята "Каляды") успрымаецца як сыход на зямлю жонкі Перуна для таго, каб выпрабаваць людзей на дабрыню, шчодрасць. Прыходзіць яна ў мароз, мяцеліцу. За ёй гоняцца сілы зла, даганяе яе Зюзя, які нацкоўвае на бяглянку сваіх ваўкоўмяцеліц. У гэты дзень людзям неабходна паліць вогнішчы, пець вясёлыя песні, танцаваць, бо злыя сілы баяцца цяпла і весялосці. Ні ў якім разе нельга адмовіць у гасціннасці, у дабрачыннасці нікому — Каляда даволі часта з'яўляецца ў вобразе прамерзлай да касцей вандроўніцы, бабулі-жабрачкі, дзіцяці-сіраты... Калі людзі ўпусцяць яе, то народзіцца Дажджбог (які ў дадзеным выпадку атаясамліваецца з богам цяпла (лета), то лета будзе цёплым, ураджай багатым. А калі сэрцы людзей акажуцца чэрствымі да чужой бяды, то лета будзе халодным, дажджлівым, нават можа пачацца падзеж свойскай жывёлы ці яшчэ якаянебудзь бяда.

Вельмі многія абрады Шчадрухі (непасрэднай часткі калядных гулянняў) бяруць свой пачатак непасрэдна ад гэтага міфа. Ды і само калядаванне складзена на дэманстрацыі шчодрасці гаспадароў і гасцей. А наогул мы назіраем цікавую з'яву — для жанчыны кожнага ўзросту ёсць свае багіні: для дзяўчыны — Мая (менавіта ёй прысвечана "гуканне вясны"), для бабулек і сталых жанчын — Мокаш, а для жанчын-маці — Каляда, бо па гэтаму міфу яе галоўнай функцыяй было нараджэнне Дажджбога. І гэта вельмі важны момант. Мы добра ведаем, што з прыходам на нашу зямлю хрысціянства да самых важных язычніцкіх свят пачалі "прывязваць" хрысціянскія, прычым "прывязваць" так, каб растлумачыць па-свойму дзеянні людзей, якія спраўлялі тыя ці іншыя святы, каб надаць ім тыя ці іншыя хрысціянскія мэты, апраўдаць іх. Прыкладам гэтага можа быць Купалле. У час яго адным з галоўных рытуалаў з'яўляецца ачышчэнне вадой — удзельнікі купаюцца ў рэчцы, возеры ці якім-небудзь іншым вадаёме. Таму менавіта на гэты дзень паставілі свята Іаана Хрысціцеля, які, дарэчы, хрысціў вадою ў рэчцы Іардан. Людзі ж сумясцілі назву старога, язычніцкага, і новага (для іх) свят, і атрымалася свята Івана Купалы.

Незнішчальнае пакланенне язычніцкаму богу Перуну з вялікай цяжкасцю замянілі культам Іллі Прарока. Ілля, у рэшце рэшт, займаўся тым жа — ездзіў па небе на вогненнай калясніцы і страляў па зямлі вогненнымі стрэламі-маланкамі.

Са святам жа Каляды сумясцілі Ражство. Калі мы памятаем, у гэтую халодную (наколькі яна можа быць халоднай у Міжземнамор'і) зімовую ноч жанчына нараджае на свет дзіця, якое на самай справе сын бога і бог. Хіба не падобна гэта сітуацыя на тую, якую расказвалі нашы далёкія продкі-язычнікі? Падабенства гэта настолькі вялікае і так моцна кідаецца ў вочы, што жыхары Беларусі да гэтых часоў упарта адмаўляюцца называць гэта свята Ражством. Для іх да гэтых часоў Ісус Хрыстос нарадзіўся на Каляды.

Дык давайце ж пець, танцаваць, хадзіць з "казою" ў госці да знаёмых і суседзяў у гэтую ноч! Будзем добрымі і шчодрымі! Хай на зямлі нашай шматпакутнай народзіцца бог! Хто ведае, можа ён дапаможа нам, прынясе нам шчасце?

**Ірына Масляніцына,**
**Мікола Багадзяж.**

*Госць "КРЫМІНАЛЬНАГА БЮРО" — першы Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь Мікалай Іванавіч ІГНАТОВІЧ.*



**— У сувязі са стварэннем СНД, натуральна, паўстае пытанне аб лёсе саюзнай пракуратуры, ці патрэбна яна?**

— Гэта залежыць ад таго, якой будзе Садружнасць. Калі гэта сапраўды будзе Садружнасць незалежных дзяржаў, дык саюзная пракуратура будзе непатрэбна. Як вядома, у ЗША, якія з'яўляюцца федэратыўнай дзяржавай, федэральнай пракуратуры няма, а ёсць пракуратуры штатаў і акруг. Я лічу, што ў кожнай рэспубліцы Садружнасці павінна быць свая пракуратура. Але гэтым дзяржавам неабходна цесна супрацоўнічаць, у тым ліку па прававых пытаннях. Патрэбен нейкі каардынуючы орган, напрыклад, савет Генеральных пракурораў незалежных дзяржаў.

**— Адказнасць за замах на жыццё, здароўе і гонар менавіта работніка пракуратуры, яго прававая і сацыяльная абарона ў існуючым заканадаўстве не прадугледжана. Якія Вы збіраецеся прымаць захады, каб у новым "Законе аб пракуратуры" была забяспечана абарона работнікаў Вашага ведамства з боку дзяржавы?**

— Спецыяльнай адказнасці за такія злачынствы ў крымінальным кодэксе не прадугледжана. Прадугледжана толькі адказнасць за гэты від злачынстваў нароўні з адказнасцю за замах на іншых службовых асоб. Але і наконт гэтага пытання пэўныя прапановы будуць намі ўнесены ў праект "Закона аб пракуратуры".

**—Зараз назіраецца тэндэнцыя да няўхільнага росту злачыннасці. Чыя, па-вашаму, гэта віна і ці ёсць тут які недагляд з боку пракуратуры?**

— Гэта віна ўсёй нашай сістэмы. Адсюль і беднасць, слабая тэхнічная аснашчанасць праваахоўных органаў, якія не здольны часам выконваць свае задачы. Што да пракуратуры, дык гэта не орган барацьбы са злачыннасцю, што я не раз падкрэсліваў у сваіх выступленнях у друку.

**— Следчыя ізалятары і турмы перапоўнены. У чым Вы бачыце рашэнне гэтай праблемы?**

— Калі казаць па рэспубліцы, дык новыя ізалятары амаль зусім не будаваліся. Пад іх выкарыстоўваюцца старыя пабудовы, многія з іх яшчэ дарэвалюцыйныя. Прыклад таго — следчы ізалятар у Мінску. І нядзіўна, што ўсе месцы зняволення перапоўнены, зрэшты, як і ўсе суды. А таму многія падследчыя знаходзяцца пад наглядам больш як год, чакаючы разгляду сваёй справы. Пастаноўка да гэтага пытання павінна быць адназначнай: трэба адкінуць хрушчоўскую ідэалогію аб тым, што ў нашым грамадстве няма глебы для злачыннасці. Яна ёсць і будзе. А следчыя ізалятары трэба будаваць.

**— Ваш прагноз сітуацыі са злачыннасцю ў рэспубліцы на будучы год?**

— Я лічу, што з маючым адбыцца рэзкім павышэннем цэн, з цяжкасцямі на спажывецкім рынку, з павальным дэфіцытам, са з'яўленнем росту беспрацоўя злачыннасць будзе ўзрастаць. Колькасць краж, грабяжоў, разбойных нападзенняў, забойстваў на гэтай глебе павялічыцца.

**— На тэрыторыі рэспублікі ажыццяўляецца мноства экалагічных злачынстваў, вынікі якіх выклікаюць усё больш неспакой аб стане навакольнага асяроддзя. Як вырашаецца гэта праблема?**

— Стан экалогіі ў рэспубліцы крайне нездавальняючы: забруджаны рэкі, азёры, узнікла рэальная пагроза для здароўя насельніцтва, асабліва для будучага пакалення. Мною накіраваны і ў Савет Міністраў, і ў Вярхоўны Савет рэспублікі пакет прапаноў. А да парушальнікаў прымяняюцца меры адміністрацыйнай адказнасці, заведзены крымінальныя справы.

**— Да Вас пасаду Пракурора рэспублікі займаў Тарнаўскі. Якія былі ў Вас адносіны з ім асабіста і як Вы можаце ацаніць работу, якую ён праводзіў?**

— У мяне былі з ім нармальныя службовыя кантакты. А што датычыць яго дзейнасці, дык я не буду прыпадабняцца некаторым новым кіраўнікам, якія ўсе беды і грахі сістэмы звальваюць на сваіх папярэднікаў.

**— У свой час Вы былі членам дэпутацкай камісіі, якая займалася расследаваннем дзейнасці групы Гдляна і мелі магчымасць атрымаць інфармацыю пра карупцыю ў структурах улады. Як глыбока, Вы лічыце, пранікла карупцыя ў кіруючыя структуры нашай рэспублікі, калі такая ёсць?**

— Ёсць у нас карупцыя. Ёсць і мафіёзныя структуры, працэс фарміравання якіх, паводле ацэнак заходніх спецыялістаў, ужо завяршыўся. Гэта і нядзіўна: у тым Саюзе, які ў нас быў, тэрыторый, на якія б ні распаўсюдзілася карупцыя, існаваць не магло. Іншая справа, што ў адным рэгіёне гэта праяўлялася больш, у другім — менш.

**— Многія юрысты, як ужо было адзначана, ідуць у прадпрымальніцтва. Ці не ўзнікала калі ў Вас такога жадання?**

— У мяне такое жаданне з'яўлялася. Яшчэ да выбрання народным дэпутатам. Дарэчы, ісці было куды.

**— Між іншым, узнікае нямала канфліктных сітуацый, звязаных з дзейнасцю тых жа малых прадпрыемстваў. Часцяком юрысты, якія павінны абараняць закон, дапамагаюць гэтым прадпрыемствам як-небудзь абысці закон, выкарыстоўваючы пры гэтым розныя хады і хітрыкі...**

— Калі юрыст, які добра ведае заканадаўства, знойдзе магчымасць законным шляхам дапамагчы таму, чые інтарэсы ён прадстаўляе, нічога заганнага ў гэтым не бачу. Справа ў тым, што ў нашым, асабліва гаспадарчым заканадаўстве, шмат супярэчнасцей, што дае магчымасць так або інакш растлумачыць нейкі артыкул. Каб гэтага не здаралася, трэба ўдасканальваць заканадаўства. Але такая дзейнасць юрыстаў — не самае горшае. Найбольшую занепакоенасць выклікае тое, што некаторыя вопытныя юрысты-прафесіяналы, нярэдка працаўнікі апаратыўных службаў, становяцца пад час кансультантамі і саўдзельнікамі мафіёзных груповак.

**— Як у пракуратуры рэспублікі выконваецца Закон аб мовах?**

— Я беларус па нацыянальнасці. Родную беларускую мову ведаю нядрэнна. Але за той час, што працую ў дзяржаўных установах, дзе беларускай мовай ніхто не карыстаўся, я пачаў думаць на рускай мове, і кожны раз, калі я гавару на беларускай мове, мне трэба перакладаць свае думкі з рускай. Пераход на беларускую мову — гэта дзяржаўная задача, і таму ўжо некаторыя паперы ў органы ўлады мы адправілі на беларускай мове. А для супрацоўнікаў пракуратуры пачаліся заняткі на беларускай мове.

**— Генеральны Пракурор рэспублікі – значная фігура, і чытачам, пэўна ж, цікава будзе бліжэй з Вамі пазнаёміцца...**

— Мне 51 год. Студэнцкая маладосць мая прыйшлася на 60-я гады. Потым — праца ў пракуратуры. Здаецца, ніякай загадкі не ўяўляю, звычайны грамадзянін Беларусі.

**— Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю.**

— Жонка, дзве дачкі-школьніцы — звычайная сям'я нашых інтэлігентаў.

**— Вашы жыллёвыя ўмовы?**

— Маю звычайную трохпакаёвую кватэру ў такім жа звычайным доме на ўскраіне горада.

**— Ёсць у Вас нейкія любімыя кнігі, пісьменнікі?**

— З рускай класічнай літаратуры мне больш падабаюцца Дастаеўскі і Чэхаў. З сучаснай беларускай — Васіль Быкаў.

**— Ці лічыце Вы сябе шчаслівым?**

— Не, шчаслівым я сябе не лічу. Ды і хто можа лічыць сябе шчаслівым у наш час, у наш вельмі цяжкі час?

**— Ці многа ў Вашым жыцці таго, што хацелася б вярнуць і выправіць?**

— На жаль, гэтага зрабіць ужо немагчыма, а ўвогуле, былі сітуацыі, якія б хацелася перайграць.

**— Калі ласка, Вашы навагоднія пажаданні чытачам "Чырвонай змены"...**

— Шанаваць гонар замалада. І каб у тых зводках аб здарэннях і злачынствах, што я праглядваю кожны дзень, як мага радзей сустракаліся прозвішчы маладых людзей.

# "ШАНУЙЦЕ ГОНАР ЗАМАЛАДА..."

**— Мікалай Іванавіч, вось ужо 2 месяцы, як Вы знаходзіцеся на новай пасадзе. Якія Вашы першыя ўражанні?**

— З нейкімі істотнымі нечаканасцямі, сюрпрызамі за гэтыя 2 месяцы мне сутыкнуцца не давялося. Я ведаў, што крымінальнае становішча ў рэспубліцы вельмі цяжкае, і агульнае ўяўленне аб гэтым у мяне было.

**— У пракуратуры рэспублікі склалася становішча, блізкае да катастрафічнага. Заробак нізкі – і з пракуратуры бягуць людзі, узнікла праблема дэфіцыту кадраў. І, як вынік, каля 70 працэнтаў следчых маюць стаж менш як 3 гады, што не можа не адбівацца на якасці іх работы з-за недахопу вопыту. Што Вы думаеце аб гэтым?**

— Ваша інфармацыя наконт заробку крыху ўстарэла, бо ўжо ў пачатку снежня Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў пастанову аб істотным павышэнні заробку работнікам пракуратуры, дарэчы, як і судовым, дзесьці ў 2,5 раза. А калі да гэтага дадаць яшчэ даплату за выслугу гадоў і за класныя чыны, то атрымліваецца за 1000 рублёў. З ростам цэн будзе павялічвацца і заробак. Але гэтым вырашана толькі частка праблемы. Заявы аб звальненні, праўда ўжо ў меншай колькасці, усё яшчэ паступаюць. Патрэбен комплекс іншых мер. У прыватнасці, меры не толькі матэрыяльнага, а і маральнага заахвочвання, меры прававой і сацыяльнай бяспекі работнікаў пракуратуры, і гэта закладзена ўжо ў праекце "Закона аб Пракуратуры". На веснавой сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая павінна адбыцца ў сакавіку, мы паспрабуем пераканаць парламентарыяў у неабходнасці зніжэння пенсіённага ўзросту следчых.

**— Якой Вы ўяўляеце абноўленую пракуратуру РБ, і ці збіраецеся правесці якія-небудзь кадравыя перастаноўкі?**

— Абнаўленне пракуратуры — гэта справа нават не аднаго года. Вялікую ўвагу трэба звярнуць на раённыя і абласныя пракуратуры. Магчыма, патрэбна стварэнне нейкага каардынуючага цэнтра. Што датычыць кадравых перастановак, то я супраць таго, каб раскідвацца кадрамі. Трэба захоўваць і вопытных работнікаў. Але мне думаецца, ужо цяпер асноўную стаўку трэба рабіць на маладых, якія, без сумнення, у хуткім часе заменяць нас.

**— Ці лічыце Вы, што работнік пракуратуры не павінен з'яўляцца членам ніякага палітычнага аб'яднання або партыі? Ваша пазіцыя да так званага "Камітэта па ўзнаўленню дзейнасці КПБ – КПСС і яе абнаўленню"?**

— Я заўсёды выступаў за тое, што работнікі пракуратуры, органаў унутраных спраў, судовых органаў, органаў бяспекі і служачыя арміі павінны быць па-за партыяй, па-за палітычнай дзейнасцю. І поўнасцю падтрымаў жнівеньскую пастанову аб дэпартызацыі.

А аб узнаўленні дзейнасці КПБ—КПСС не можа быць і гутаркі. Іншая справа — стварэнне новай партыі, дарэчы, ужо прайшоў Устаноўчы з'езд гэтай партыі. Галоўнае, каб усё было адпаведна з "Законам аб грамадскіх аб'яднаннях".

Гутарыў Сяргей Вішнеўскі.

**Увага!**

**Падведзены вынікі конкурсу крымінальных анекдотаў "Смех за кратамі". Пераможцам стаў В.Бабей з Мінска, на адрас якога мы высылаем наш святочны прыз — камплект дэтэктыўнай літаратуры. Віншуем!!!**



**Вядучы "Крымінальнага бюро" — Павел Сіманаў, намеснік галоўнага рэдактара.**

*Малюнкі святлаценем*

# Школа — для трох вучняў?







Аліна, Ігар, Каця...
Магчыма, з іх трох вырасце геній? Гэтага, па меншай меры, хацелася б іх настаўніцы Марыне Мікалаеўне Гур'янавай.

**Фота Сяргея Брушко.**

*Паспрабуем?*

## ПЕСЦІМ ТАЛЕНТЫ!

*"Новае жыццё" звычайна прынята пачынаць з панядзелка, з чыстай старонкі. Магчыма таму, і новы год — якраз той час, які наводзіць на думку перагледзець адносіны да рэчаіснасці, "завярнуць" новую справу, інакш пачаць ставіцца да людзей, якія знаходзяцца побач. А самы ўдзячлівы матэрыял для педагагічных эксперыментаў, як вядома, нашы дзеці. Хочаце вырасціць генія? Тады, не марудзячы, за справу!*



«Педсавет» вядзе Наталля Плыткевіч, рэдактар аддзела навукі, адукацыі і культуры.

Як патрэбны клопат і паліўка кволай раслінцы, так і нашым малым — слухаць пра сябе прыемныя рэчы: на нейкі час пяшчотнае слова дае пачуццё задавальнення самім сабой.

Даследчыкі высветлілі, што важная не столькі пахвала настаўніка, колькі наяўнасць зваротнай сувязі і станоўчай падтрымкі ад яго.

Дзецям, захопленым нейкай справай, неабходна ў кожны дадзены момант ведаць, дзе яны знаходзяцца, наколькі крочылі наперад.

Зваротная сувязь — у любым выглядзе — павінна знаходзіць дзяцей своечасова. Кантрольная ці конкурс у сераду — абвяшчэнне вынікаў у чацвер ці ў пятніцу — гэта своечасова. Паведамляць жа праз месяц аб выніках практычна не мае сэнсу.

А пахвала, ці можа яна быць эфектыўнай? Зразумела. Для дасягнення вынікаў нешта патрэбна...

*1. Пахвала павінна ўзнікаць знянацку, не трэба яе прыдумваць, планаваць — дзеці адчуюць фальш.*

*2. Не ўзнімайце да нябёсаў руцінную, а тым больш абы-як зробленую работу. Пахвала зробленага дрэнна крыўдзіць інтэлект і таго, хто зрабіў, і таго, хто хваліць.*

*3. Пахвала павінна быць канкрэтнай. Удзячныя словы чуць, безумоўна, прыемна, але трафарэты "агульнага выгляду" не выклікаюць ніякіх эмоцый, і не ідуць у параўнанне са шчырымі словамі, адрасаванымі толькі табе. Павінна быць дакладна зразумела, за што табе "дзякуй" і чаму радуецца той, хто хваліць.*

*4. Хваліць трэба так, каб у пахвалу верылася. Мова мімікі і рухаў тут на адным з першых месцаў. Калі я гавару, што мне спадабалася сачыненне вучня, але выгляд маю пахмурны і змрочны, то ў шчырасць маіх пахвал наўрад ці павераць.*

Такім чынам, няхай зваротная сувязь будзе своечасовай, а пахвала наша дакладнай, нечаканай і выклікае давер.

У наступных выпусках "Педсавета" мы працягнем гутаркі пра выхаванне. Вы пачуеце думкі псіхолагаў і вопытных педагогаў, будзеце мець магчымасць выказаць свае меркаванні.

**А.Стрэхава.**

*Здольнасці на кончыках пальцаў*

## ЛОЦМАН У СТЫХІІ РОЗУМУ

Сухамлінскі пісаў, што вытокі здольнасцей і даравання дзяцей — у кончыках іх пальцаў. Вобразна кажучы, ад іх ідуць ручаінкі, якія жывяць крыніцу творчай думкі. Чым больш упэўненасці і вынаходніцтва ў рухах дзіцячай рукі, тым ярчэй творчая стыхія дзіцячага розуму. Чым больш майстэрства ў дзіцячай душы, тым дзіця больш разумнае. Таму вельмі важна з маленства "паставіць" руку, падрыхтаваць яе да работы.

Настаўнік-наватар А.Патапава раіць выкарыстоўваць практыкаванні, якія развіваюць мелкія мышцы пальцаў і кісці рук. Асаблівае значэнне надае яна такой рабоце, як штыхаванне, якое развівае яшчэ і ўнутраную і знешнюю мову, лагічнае мысленне, агульную культуру, актывізуе творчыя здольнасці.

Спачатку дзеці выкарыстоўваюць трафарэты з геаметрычнымі фігурамі і лекала. Абводзяць фігуры, а потым штрыхуюць іх не толькі паралельнымі рысамі, але і хвалістымі, кругавымі, петлямі. Для штрыхоўкі можна выкарыстоўваць альбомы і кнігі для размалёўвання.

Добра развіваюць мышцы пальцаў і рухі мазаіка, бірулькі, работа з пласцілінам, глінай, цестам, дзіцячым канструктарам. Калі ў дзіцяці будзе добра развітая ручная маторыка, знізіцца псіхалагічная нагрузка пры навучанні яго пісьму, малы будзе з цікавасцю вучыцца.

# Валерый Лявонцьеў: "Буду пецъ, пакуль не памру..."

*Што такое эстрадная зорка? Думаю, адказ тут зусім просты: спявак або спявачка, песні якога ( ці якой) добра ведаюць, пішуць на касетах, круцяць у дыскатэках. Ну, а самога спевака (спявачку) пазнаюць на вуліцах, просяць падарыць аўтограф, шукаюць хаця б хвілінnай з ім сустрэчы, ствараюць фан-клубы. А калі гэта працягваецца не адзін год, нават не адзін дзесятак, можна ўпэўнена гаварыць — гэта суперзорка. А, значыць, сустрэча з ёй становіцца яшчэ больш жаданай і значнай. У ліку такіх і мая сустрэча з суперзоркай савецкай эстрады Валерыем Лявонцьевым, які нядаўна быў удзельнікам фестывалю "Песня-91", што праходзіў у Мінскім Палацы спорту.*



Інтэрв'ю правяла аглядальнік Майя ШЭНДРЫК, пастаянны вядучы старонкі "КУЛЬТУРА".

**— Валерый, вы, напэўна, ужо не першы раз у нашым горадзе...**

— Ды, ведаеце, я ўжо нават з ліку збіўся (*смяецца*)...

**— Як вам Мінск, мінская публіка?**

— Мінск — цудоўны горад, а мінскага гледача я люблю ўжо даўно, з таго часу, як першы раз трапіў у ваш горад. Гэта, калі не памыляюся, быў 1974 год...

**— Валерый, калі вы сталі на эстрадзе ўжо даволі знакамітым спеваком, пайшлі чуткі, што вы ў свой час уцяклі з цыганскага табара...**

— Не, я ніадкуль не ўцякаў.

**— У вас ёсць такая добрая песня "Я в детстве был хорошим мальчиком..." Ну, а што стала з гэтым хлопчыкам потым, таксама з песні вядома. Вы, выпадкова, не пра сябе спяваеце?**

— Так, сапраўды, песня добрая. Добрая песня добрага кампазітара Ігара Талькова. Ну, а што тычыцца мяне, то ўсё, што я спяваю, нейкім чынам да мяне адносіцца. Я ў дзяцінстве быў сапраўды добрым хлопчыкам. Але ўсё ж не заўжды песню трэба атаясамліваць з асобай выканаўцы, што атрымліваецца даволі часта...

**— З вялікага шэрагу цудоўных песень, якія вы спяваеце, ёсць і песня "Муза". А хто вашая муза?**

— Муза, зразумела, ёсць. Але гэта не канкрэтны чалавек, якога вы, напэўна, маеце на ўвазе. Гэта іншае!..

**— Што вы ставіце на першае месца: творчасць або блізкіх вам людзей?**

— Ведаеце, я так паспяхова звязаў у жыцці блізкіх людзей і сваю творчасць, што гэта практычна адно і тое ж.

**— Як вы працуеце з кампазітарамі? А менавіта, хто каго выбірае?**

— Як калі: то кампазітары прапаноўваюць свае песні, то я сам прашу іх напісаць нешта для мяне.

**— Ваша папулярнасць — гэта вынік незвычайнай працаздольнасці або нейкі божы дар?**

— Гэтае пытанне, напэўна, хутчэй для маіх слухачоў. Ну, я працаздольнасць... Так, працую я шмат. Фактычна, я толькі тое і раблю, што працую. Я ведаю, што пяю сёння, што буду пець заўтра і да таго часу, пакуль не памру. Адзінкі ж вымярэння папулярнасці ў мяне не існуе...

**— Але ж вы, калі шчыра, нейкае месца на эстрадзе сабе адводзіце?..**

— Толькі месца Лявонцьева (*смяецца*).

**— Песні, якія вы спяваеце,— гэта больш вашы сімпатыі ці сімпатыі публікі?**

— На шчасце, мне ўдаецца прымірыць свае асабістыя сімпатыі з сімпатыямі публікі. Адмятаць тое, што падабаецца гледачу, нельга. Хаця можна тут мне супярэчыць: гэдак, маўляў, можна пайсці на поваодзе ў гледача і г.д. А я думаю, што няма нічога страшнага ў тым, каб праявіць павагу да той вялікай колькасці людзей, якія прыйшлі на канцэрт і спяваць ім тое, чаго яны чакаюць, што ім падабаецца. Вельмі часта на сваіх канцэртах я спяваю песні дзесяці-пятнаццацігадовай даўніны. Калі яны падабаюцца слухачу, я толькі рады і з задавальненнем іх выконваю. Тым не менш, я кожны год прапаную кіпу новых песень...

**— Ваш вольны час? Чаму ён аддадзены?**

— Сну.

**— ?!**

— *(Смяецца).* Уявіце сабе, я ніяк не высплюся...

**— У вас шмат сяброў?**

— Сапраўдных вельмі мала. Ды я і не думаю, што сапраўдных сяброў бывае шмат. Вельмі многа добрых знаёмых у розных гарадах краіны нашай і не нашай. А блізкія сябры — гэта адзін— два чалавекі...

**— З чым вы ў жыцці часцей сустракаецеся — подласцю, здрадніцтвам, пошласцю ці, наадварот, з высакароднасцю, прыстойнасцю?**

— Вы ведаеце, я так часта сустракаўся ў жыцці з непрыстойнасцю, што ў рэшце рэшт сабраў вакол сябе людзей, якім я давяраю, з якімі мне прыемна мець зносіны. Але гэта не азначае, што калі я сустрэну сёння цікавага чалавека, я ад яго сваёдома адмоўлюся.

**— Ваш слухач, паклоннік — які ён?**

— Вы ж толькі што яго бачылі. Гэта людзі самыя розныя і па ўзросту, па ўзроўню адукацыі. Тыя, хто адкрывалі мяне дваццаць гадоў таму як спевака і якіх я адкрываў як слухачоў, сёння да мяне прыходзяць ужо са сваімі дзецьмі, унукамі. Ёсць, канешне, і слухач, так бы мовіць, фанат. Так, у Маскве існуе клуб "Рэха", у Ленінградзе — "Верао-ка" — яны вельмі пільна сочаць за маёй творчасцю, збіраюць любую інфармацыю, якая тычыцца мяне, запісваюць усе мае песні і гастрольныя маршруты. І я ім за гэта вельмі ўдзячны, таму што ёсць рэчы, якія я губляю, на якія забываюся, а ў іх усё падшыта...

**— Валерый, мы вас ведаем як спевака, скажам штампам, шырокага дыяпазону — філасофскія песні, лірычныя, сацыяльныя, чыстыя шлягеры. А якім мы вас пакуль яшчэ не ведаем?**

— *(Смяецца).* Напэўна, вы аб гэтым не ведаеце, але ў хуткім часе, спадзяюся, даведаецеся. Справа ў тым, што я гэтым летам зняўся ў фільме "Экстрасенс". Жанр — прыгодніцкая фантастыка. Я ў фільме іграю злодзея, ворага роду чалавечага. Рэжысёр фільма Генадзь Глаголеў, зняты фільм на незалежнай кінастудыі "Французскі бульвар". Дзякуй Богу, фільм не музычны, таму я там выступаю толькі ў якасці акцёра.

**— Значыць, мы вас пазнаем яшчэ і як акцёра...**

— Можа вы мяне яшчэ пазнаеце і як мемуарыста. Я пачаў работу над кнігай, у якой хачу расказаць пра тое, аб чым я даведаўся за гэтыя гады, падзяліцца думкамі аб пражытым...

**— Валерый, у вашай сям'і яшчэ хто-небудзь спяваў?— бацькі, бабулі, дзядулі?..**

— Не, я першы.

**— Вы, акрамя таго, што зорка эстрады, яшчэ і звычайны чалавек, у якога ёсць недахопы, слабасці...**

— *(прыемная ўсмешка).* У вас, Майя, нейкія інквізітарскія пытанні. Слабасць.. Галоўная мая слабасць — цярпліваць. У гэтым і сіла. А ўсё астатняе знойдзе слухач.

**— Вы шмат гастралюеце, збіраеце поўныя залы. Зала якой краіны ці горада вам бліжэй?**

— *(смяецца).* Я ж кажу, пытанні інквізітарскія. А калі сур'ёзна, я люблю свайго слухача, дзе б ён ні жыў — ужо таму, што ён любіць мяне, бо прыйшоў на канцэрт. А калі гаварыць пра адрозненне нашага слухача і замежнага, то яно вельмі і вельмі адчувальнае. Наша публіка больш пасіўная.

**— Вас вельмі стамляюць паклонніцы?**

— *(працягласе маўчанне).* Прапаную абысці гэтае пытанне, бо калі гаварыць на гэтую тэму, то гаварыць трэба не вельмі прыемныя рэчы ў іх бок. Але ж і зразумець іх трэба — можа гэта для іх у жыцці ну, скажам, свет у акенцы...

**— Што вы чакаеце ад наступнага года, акрамя, зразумела, павышэння цэн?**

— Можа ўдасца зрабіць яшчэ адну карціну. Я настолькі люблю кіно, што часам не магу адрозніць добрае ад дрэннага і гляджу ўсё запар.

**— Вы не спрабавалі сябе ў якасці кампазітара?**

— Калі шчыра, спрабаваў і прыйшоў да думкі, што гэта — не мая справа. Я не ўмею гэтага рабіць.

**— Хто з выканаўцаў вам падабаецца?**

— Мне вельмі падабаецца Прынц, маладая амерыканская поп-спявачка Марая Керы. З нашых — Пугачова, праўда, апошнім часам яна мала спявае...

**— Апошнім часам яна набыла новы статус — бабулі...**

— Ну, не думаю, што яна ўвесь час няньчыць. Хаця... З нашых маладых выканаўцаў найбольш прафесіянальным мне здаецца Валодзя Прасняков.

**— А ўвогуле, халтуры сёння на эстрадзе многа?**

— Дастаткова. Перабудовачныя працэсы дазволілі спяваць усім, хто хоча. Нават, калі і не ўмее. Але час усё расставіць па сваіх месцах.

**— Валерый, вы папулярны чалавек, кумір, зорка эстрады, а значыць, чыста ў чалавечых, жыццёвых адносінах вы шмат чаго пазбаўлены. Ну, напрыклад, не можаце праехацца ў метро, пагуляць незаў парку...**

— Я з гэтым звыкся. Ды і часу амаль няма — столькі яшчэ трэба зрабіць. Хаця, безумоўна, цяжка ўвесь час быць "пад прыцэлам".



**— Вы ўжо сказалі, што не трэба атаясамліваць песню з асобай выканаўцы. І ўсё ж. Ці падобны вы ў жыцці на героя сваіх песень?**

— Усе мае сябры і знаёмыя гавораць, што поўная процілегласць.

**— Калі вы пакідаеце сцэну, у вас выгляд смяротна стомленага чалавека. Вось і цяпер, мне здаецца, вы ледзь-ледзь дайшлі да грымёрнай. А праз дзве гадзіны вам зноў пець...**

— Так. Я сапраўды ледзь дайшоў. (*Смяецца*). Зараз трохі адпачну, прыму патрэбныя таблеткі, і калі зноў выйду на сцэну і ўбачу ўдзячныя твары людзей — стомленасць як рукой зніме. Калі я адчуваю зваротную хвалю энергіі, аддачу, шчырыя вашы апладысменты і кветкі, я забываюся на ўсе свае цяжкасці...

**— Валерый, прынята лічыць, што вядомыя спевакі, акцёры, ды ўвогуле вядомыя людзі вельмі багатыя...**

— Я не магу сказаць, што я — жабрак. Я проста багаты чалавек у параўнанні з тым Лявонцьевым, які пачынаў дваццаць гадоў назад, калі разлічваў банку кабачковай ікры, і бохан хлеба на два дні. Ну, а ў параўнанні з заходнімі зоркамі я вельмі бедны чалавек. Шмат сваіх грошай я трачу на апаратуру, касцюмы. Напрыклад, сольныя канцэрты... Я куплю асвятленне, каб было прыгожа, модна, святочна, эфектна. А асвятленне на адзін канцэрт каштуе дзесяць тысяч рублёў...

**— А вашы касцюмы, дзе вы апранаецеся?**

— Цяпер — часцей за мяжой, а раней мне шылі іх мадэльеры.

**— Вы цікавіцеся палітычнымі падзеямі, усім тым, што адбываецца ў краіне?**

— Я цікаўлюся пастолькі, паколькі я тут жыву. А калі шчыра, то тэлевізар я імкнуся амаль не ўключаць, бо лічу, што для творчага чалавека гэта небяспечна. Увесь час слухаць тое, дзе каго забілі, што згарэла, каго згвалтавалі,— гэта вялікі камяк негатыўнай інфармацыі, і калі яе "праглынаць",— на сцэну не выйдзеш. Па гэтай жа самай прычыне я выкінуў з рэпертуару ўсе песні, якія маюць хаця б нязначную сацыяльна-палітычную афарбоўку.

**— Валерый, Ігар Талькоў шмат пісаў для вас. Ён быў вашым сябрам?**

— Я не магу сказаць, што мы былі "не разлей вада". Але адзін аднаго разумелі вельмі добра. Зусім нядаўна ён напеў яшчэ касету.

**— Тое, што адбылося, як вы расцэньваеце?**

— Я расцэньваю гэта не як закулісныя інтрыгі ці распад асобы ў закулісным свеце, не. Гэта ўсяго толькі следства і сведчанне распаду грамадскіх і этычных норм увогуле.

**— На заканчэнне я хачу падзякаваць вам, Валерый, за размову, ну, і, як звычайна, пажадаць поспехаў. А што такое для вас поспех?**

— Удзячныя, радасныя твары маіх слухачоў, якія гавораць: "Гасподзь, мы забыліся на ўвесь той мрак і кашмар, у якім мы жывём".

*Гумарэска*

# Як я не стаў паэтам

Часам у мяне пытаюць, як стаў я сатырыкам. Мне ж лягчэй адказаць, як я не стаў паэтам.

А было ўсё так. Яшчэ школьнікам складаў я вершыкі, нешта змяшчалі нават у насценнай газеце. Калі ж паступіў у педвучылішча, пачаў друкавацца і ў раённай газеце. Хлопцы лічылі мяне адмысловым паэтам, дый дзяўчаты, да якіх заглядалі вечарком у інтэрнацкі пакой — казкі-байкі паслухаць, у дурня, абы строгія настаўнікі не бачылі, згуляць.

Часцей за ўсё трапляў я ў пакой, дзе жыла кірпатая рагатушка Маруся Гаранец. Бо падабалася мне Маруся. Нават не тое што падабалася — без яе белы свет мне быў нямілы. Ды Маруся, мабыць, пра тое не здагадвалася, хоць вучыліся ў адной групе, хоць разам хадзілі на танцы, у кіно. Колькі разоў памыкаўся сказаць ёй пра сваё каханне, ды, ці то хтосьці замінаў, ці то, калі заставаліся сам-насам, язык быццам дубянеў, у горле шорхла.

Э-э, падумаў, можна ж вершам выказаць сваё пачуццё. Прачытаю, быццам жартам, яна ўсё зразумее.

Я помню чудное мгновенье,
Передо мной явилась ты...

Але ж такое, як некалі падмеціў Астап Бэндар, ужо было, такімі словамі адкрываў сваё сэрца любай класік... Я павінен знайсці свае словы!..

Толькі ж хутка казка расказваецца, ды не хутка справа робіцца. Цяжка, марудна клаўся мой верш на паперу. Было там пра блакітныя вочы і мары-мроі ўночы, пра дзявоцкія льняныя косы і ранкавыя росы, пра інтэрнат наш студэнцкі на вулічным рагу і што без любай жыць я не магу...

Ня проста верш-прызнанне напісаць, яшчэ цяжэй каханай яго прачытаць. Адкрыю рот, а з яго зусім не тыя, няскладныя словы-пустышкі вылятаюць.

І тут быццам хтосьці навёў на розум: а газета навошта? Абы надрукавалі.

Паслаў я свой верш і чакаю. Дзень чакаю, тыдзень, месяц... Пра тое, як ад зары і да зары гудуць на полі трактары, як на святочны парад выйшлі калоны за радам рад. Усё гэта друкавалі, а пра боль сэрца, пра каханне... Газетны кіёск далёка ад педвучылішча, але кожны дзень бегаў туды. Урэшце пашанцавала. Надрукавалі!

Ухапіў я свежую, яшчэ з пахам друкарскай фарбы газету і памчаў у дзявочы інтэрнат. Грукаю, стукаю ў знаёмыя дзверы.

— Ты што, як на пажар? — здзівілася Маруся. — Здарылася што?

— Здарылася, — зніякавеў я. — Вось... газета...

— Падумаеш, раёнка...

— А ты пачытай...

— Цікавае што? А ты ў кіно ўчора не хадзіў? Мы ж з дзяўчатамі так пасмяяліся, так пасмяяліся, — і давай расказваць мне пра ўчарашні фільм.

"Хопіць, Маруся, пра кіно! — ледзь не крыкнуў я, бліжэй да яе падсунуў на стале газету. — У кіно пра чужое, а тут пра маё, пра наша... І не смехам — усур'ёз...".

Але хіба Марусю спыніш? Пакуль удосталь не насмяецца, увесь фільм не перакажа... Я ўжо і разгарнуў газету, і яшчэ бліжэй падсунуў — як на рыбалцы, не "клюе"!

А тут урываецца да нас Ганулька з суседняга пакоя.

— Маруся, там, кажуць, селядцы даюць!

— Вой, дык чаму ж мы сядзім?! — і Маруся ўхапіла са стала газету, услед за Ганулькай пабегла ў краму.

А я выйшаў у калідор, нібы той сірата, якому, калі надумаў ажаніцца, дык і ночка кароткая. Не, падумаў, лірычным словам тут не дасі рады. Не да кожнага даходзіць вершаванае слова. І да Марусі маё слова не дайшло: паехала на выхадныя ў родную вёску дый выйшла за хлопца-суседа замуж.

Расчараваны, перастаў я пісаць вершы. Так не стаў я паэтам. Стаў сатырыкам.

**Іван Аношкін.**




## Не пішыце, дзядзькі, вершаў

Андрусь Пахмялюсь

## ПРЫГАРЭЛАЕ

*Я не ведаю, хто мы:*
*людзі, звяры ці птахі?*
*А можа, рыбы маўклівыя*
*ў стоенай глыбіні?*

Алесь Масарэнка
"Надзённае".

*Я не хачу да зор*
*ляцець без дай-прычыны.*
*Мне на зямлі сваёй*
*заняць чым рукі ёсць.*

Алесь Масарэнка
"Набалелае".

Ён не хацеў да зор
ляцець без акваланга,
бо ён не ведаў кім
там будзе працаваць,
а тут ён, на Зямлі,
працуе кансультантам,
і рукі ў кішэнях
ён знае чым заняць.

На зорах цяжка жыць,
тым больш без дай-прычыны,
а на Зямлі ты — звер,
і птах, і івасі...
Вось толькі цяжка тут,
тут цяжка быць маўклівым
у "надзённай", у "набалелай"
і ў стоенай глыбі.

## *Гісторыі абсурду*

Ігар Сідарук

### Гісторыя дулі з макам

Аднойчы ў крамы завезлі дулю з макам. Аднак дуля была непрапечаная, і дырэкцыю гандлю захліснула хваля масавых самагубстваў. Што дулі было і трэба. Яна стала качаць правы і рэарганізоўваць гандаль. Але тут ёй паступіла прапанова заключыць бартэр з замежным кукішам. Дуля адразу скеміла пра выгаду і ўдарыла па руках. А надвячоркам дулі ўдарылі па галаве і павезлі адпяваць у клюб гандлёвых работнікаў (былой сінагогі).

## *Калядныя ўсмешкі*

* Калі ў вас няма талонаў на гарэлку, піце медыцынскі спірт.

* Напярэдадні Новага года Снягурка вырашыла аб'явіць сваю незалежнасць ад Дзеда Мароза. І ён падаў у адстаўку.

* Калі ў вас не было бенгальскіх агнёў, 31 снежня раўнютка ў дванаццаць гадзін ночы трэба было стрэліць з балкона з ракетніцы ці з аўтамата Калашнікава.

* Лепшы падарунак для жонкі пад Новы год — брыльянтавыя пярсцёнак і завушніцы.

* І на гэты раз не паступіўся прынцыпамі: сустрэў Новы год як звычайна — пад сталом.

* Год малпы трэба было сустракаць, абавязкова ўладкаваўшы за навагоднім сталом сімпатычнага шымпанзэ. Калі ў вас яго выпадкова няма, запрасіце ў госці некага са сваіх знаёмых.

* У год малпы звяртайцеся да жонкі заўсёды пяшчотна: "Ах ты, гарылачка мая залатая!..".

* Калі сусед за навагоднім сталом выпадкова пераблытаў чаркі і выпіў вашу гарэлку, наліце яму ў наступны раз "Фанты". Заадно праверыце, ці ёсць у яго пачуццё гумару.

* Каб не прапусціць чарговы тост — не выходзьце пакурыць, пакуль не скончыцца гарэлка.

* Заначаваўшы ў каханкі, не забудзьцеся раніцай вярнуцца да жонкі.

* Каб не хварэць пасля святаў, за навагоднім сталом не трэба нічога мяшаць: спачатку піце толькі шампанскае, потым — толькі гарэлку, затым — толькі віно, апасля — толькі адно піва.

**Уладысь Цвяткоў.**






Вядучы "Гарчычніка" Андрэй Смірноў, аглядальнік па пыльных сатыры і гумару.

## Увага, новая рубрыка

* **Кажан** — рокер.

* **Касуля** — дзяўчынка, якая страляе вочкамі.

* **Нажніцы** — дзяўчаты з вар'етэ.

* **Вар'етэ** — лякарня для вар'ятаў.

## *Тлумкачызмы*

* **Унітаз** — унікальнасць жаночай постаці.

* **Дыямент** — прызнанне "сексота".

* **Інтэрпол** — гермафрадыт.

* **Кірмаш** — завод па вытворчасці вінна-гарэлачнага абсталявання.

**Сяржук Мінскевіч.**

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: Саюз моладзі Беларусі
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

АДРАС рэдакцыі: 220041. г.Мінск, Скарынаўскі праспект, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



Зак. № 1.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12